ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

9 верасня 1994 г. № 36 (3758) Кошт 25 руб.

# ЦІ АБАВЯЗАНЫ ПАЭТ БЫЦЬ ГРАМАДЗЯНІНАМ?..

***Алег ЛОЙКА:* «Партыя і народ — адзіныя!» — гэты лозунг таталітарызму перш за ўсё быў на ўслузе ў руйнавальшчыкаў творчай асобы, праўдзівай літаратуры, сапраўднай народнасці ў літаратуры... Магілаю свабодзе чалавека быў таталітарызм, а, значыць, магілаю і паэзіі».**

**5, 12**

# «НАША ПЕСНЯ НЕВЯСЁЛА...»

***Ігар ЗАПРУДСКІ:* «У свеце дзівосныя бываюць парадоксы. І сябра парадоксаў здолеў бы ўявіць сабе развіццё літаратуры як шырокі спектр хаця і сямі колераў, але безлічы адценняў, а не толькі як святло абсалютна чорнага цела».**

**6—7**

# ДВА АПАВЯДАННІ

***Барыса САЧАНКІ***

**9, 14—15**

# У ПРАМЕНЯХ ЯГО ХВАЛЫ




***Святлана БЕРАСЦЕНЬ* пра Другі міжнародны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа».**

**10—11**







*▲Са свайго высокага пастамента пазірае Францішак Скарына на шматлюдную плошчу роднага горада. Так пачыналася ў Полацку свята беларускага пісьменства і друку...*

*◀Не абы-як святкавалі і ў горадзе Друцку...*

*▼Юныя палачанкі ў старадаўніх уборах.*

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ і БЕЛІНФАРМ*

# ЛІТ КОЛА ДЗЁН

***«Нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку», — сцвярджалі старажытныя грэкі. На мінулым тыдні тэлебачанне ў каторы раз нас пераканала: можна. Зрэшты, пэўна, мала з тых, хто глядзеў «Момант ісціны» тыдзень назад па БТ зноў «выседзелі» тую ж праграму. Надта ж агідныя пачуцці яна пакідала пасля сябе: ганьбы і сораму. За краіну Беларусь, за яе няшчасны народ, які стаміўся ад эксперыментаў і безгаловых эксперыментатараў, які хацеў вяртання ў стабільнасць і спакой, а атрымаў абвальны рост цэн і няпэўную будучыню, у якой зноў дамінуе ідэя «воссоединения»... Яшчэ крыху, і народ зразумее, што той, каго ён лічыў магутным, справядлівым арлом, на самай справе аказаўся шэранькім салоўкам, які спявае адно, а робіць зусім іншае. Крэдыт даверу, пра які так часта спявае салавей, растае нібы снег вясною. На шэсць-восем месяцаў (зімовых) яго можа не хапіць, калі прэзідэнцкая каманда ўжо сёння не пазбавіцца комплексу «старэйшага брата» і не пачне працаваць на незалежную Беларусь.***

## *ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ*

Міністр унутраных спраў Беларусі Юры Захаранка ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыў першыя беларускія пашпарты дзевяці вучням мінскай сярэдняй школы N 37. Друк шырока асвятліў гэтую падзею, сціпла паведаміўшы, што самы першы беларускі пашпарт па «добрай» савецкай традыцыі атрымаў прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка.

## *СУСТРЭЧА ТЫДНЯ*

Віктар Ганчар, намеснік прэм'ер-міністра Беларусі, прыняў дэлегацыю Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) з Беластока, у якую ўваходзілі А. Баршчэўскі, Я. Сычэўскі і В. Ласкевіч. Кіраўнікі БГКТ расказалі В. Ганчару пра грамадскую і культурную дзейнасць таварыства, назвалі найбольш складаныя моманты мажлівага супрацоўніцтва між беларускай дзяржавай і суайчыннікамі ў Польшчы, запрасілі В. Ганчара на вераснёўскія ўрачыстасці, прысвечаныя 50-годдзю беларускага ліцэя ў г. Бельску-Падляскім і папрасілі яго перадаць запрашэнне з гэтай нагоды прэзідэнту. Са свайго боку віцэ-прэм'ер адзначыў, што стасункі беларускага ўрада з дыяспарай будуць грунтавацца ў далейшым на падмурку дэпалітызацыі, дэмакратычнага стаўлення і прагматызму.

## *ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

«Палітыка, якая вяла да аб'яднання грашовых сістэм, зрабіла вельмі негатыўны імідж для Беларусі за мяжой. На Захадзе бачылі, што практычная рэалізацыя таго пагаднення ў тым выглядзе вяла да інкарпарацыі Беларусі ў Расію. Сёння мы ўжо не разлічваем на тое, што Расія будзе штучна нам дапамагаць і нас фінансаваць... З майго пункту гледжання, не можа быць ніякай гаворкі пра нейкае аб'яднанне. Сёння ёсць погляды аб магчымасці аб'яднання славянскіх дзяржаў — Беларусі, Украіны, Расіі... Думаю, гэта справа нерэалістычная, і я, як беларус, сёння адчуваю толькі самыя прыемныя пачуцці ад таго, што Беларусь з'яўляецца незалежнай дзяржавай. Упэўнены ў тым, што яна такой і застанецца».

*(З адказаў міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Сянько на пытанні падчас прэс-канферэнцыі 6 верасня г.г.).*

## *УКАЗ ТЫДНЯ*

Павел Казлоўскі, які зусім нядаўна быў міністрам абароны Беларусі, указам прэзідэнта паніжаны ў званні за «выкарыстанне службовага становішча ў асабістых мэтах». Службай кантролю Адміністрацыі прэзідэнта ўстаноўлена, што П. Казлоўскі выкарыстаў сваё службовае становішча, арганізоўваючы вяселле сына, чым нанёс дзяржаве буйныя страты. Матэрыялы праверкі будуць накіраваны Генеральнаму пракурору Беларусі В. Шаладонаву. Пра бацьку нявесты, таксама генерала, спікера беларускага парламента М. Грыба згадак ва ўказе няма. Таму, мажліва, забываць пра «генеральскае» вяселле пакуль рана.

## *СВЯТА ТЫДНЯ*

Няхай афіцыйна і непрызнаны, Дзень беларускай вайсковай славы паступова займае сваё пачэснае месца сярод сапраўды народных святаў. З кожным годам усё больш людзей адзначаюць яго, далучаючыся тым да нашае гісторыі, да славы продкаў. 480-я гадавіна перамогі беларускага войска над маскоўскім на Крапівенскім полі пад Оршай сёлета адзначалася шырока і не толькі ў Мінску і ўмясціла ў сябе выставы (у Нацыянальным мастацкім музеі, да прыкладу, — «Слава твая, Беларусь»), мітынгі, шэсці, канцэрты.

## *ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Карэспандэнты «Известий» пабывалі на радзіме першага беларускага прэзідэнта. Іх публікацыя «маласольных назіранняў», зробленых там, выклікала ўсплёск абурэння ў прэзідэнцкай камандзе, Саўміне і нават проста сярод насельніцтва Беларусі. Можна, вядома, абурацца, называць артыкул тыповым прыкладам рускага шавінізму і маскоўскага хамства, але, пагадзіўшыся з тым, што месцамі аўтары публікацыі выходзяць за межы элементарнай прыстойнасці і павагі да незалежнай краіны і яе прэзідэнта, скажам: мы самі ва ўсім вінаваты. Гэта мы зрабілі так, што нас ніхто ў свеце (тым больш у Маскве) усур'ёз не ўспрымае, бо як можна паважаць таго, хто не паважае самога сябе, уласнае гісторыі, мовы, дзяржаўнасці... Можна, вядома, адпраўляць карэспандэнтаў «Известий» ва Урупінск ці на радзіму Ельцына, дзе падобных «фактаў» можна назбіраць не менш, але яны туды не паедуць. Як не паедуць у краіны Прыбалтыкі, Грузію, Арменію і нават Азербайджан. Бо ведаюць: там ад такога пляўка не вытруцца моўчкі.

## *ЗЛАЧЫНСТВА ТЫДНЯ*

На прадуктаправодзе, па якім дызельнае паліва ідзе з Расіі ў Еўропу, паблізу вёскі Глінная Слабада Рэчыцкага раёна адбылася аварыя. Як мяркуюць спецыялісты, прычынай яе стала «спроба непрафесійна ўчыненага крадзяжу». Злачынцы ўкралі каля 30 тон паліва і, не закруціўшы венціль, зніклі. Немалая колькасць паліва вылілася на зямлю, атруціла наваколле. Адны спецыялісты цяпер падлічваюць страты, а другія — шукаюць злодзеяў.

## *СКАНДАЛЬЧЫК ТЫДНЯ*

Мы перасталі ўжо здзіўляцца, што былая кампартнаменклатура паціху «ўсплывае» ў розных камерцыйных структурах. Яна своечасова зарыентавалася, нарыхтавала «запасных аэрадромаў», на якія і прымае зараз новых «адстаўнікоў». Што тады здзіўляцца, што «наменклатурныя дзеці» ў сваёй большасці пасталі камерсантамі. І ніхто ніколі не цікавіўся, як і дзе набыты іх першапачатковы капітал. Больш таго, судовыя органы не цікавіліся і тым, наколькі законная дзейнасць створаных наменклатурай фірм. Бадай, першай справай падобнага кшталту стала справа бацькі і сына Місунаў. Былы кіраўнік мінскіх камуністаў цяпер чакае суда, а сын яго нядаўна асуджаны за рэкет на шэсць гадоў пазбаўлення волі. Але, калі прыгавор быў дачытаны, злачынцы ў зале суда... не аказалася. Ці знойдуць?

# АДСЮЛЬ ПАЧЫНАЛАСЯ БЕЛАРУСЬ...

## НАТАТКІ З НОВАГА СВЯТА

Прыдарожныя ландшафты Віцебшчыны маляўнічымі не назавеш: дзікае кустоўе, сухастой на рэштках балота, паўсюль пры шашы сляды недагледжанасці. Еду і думаю: а як жа тут было раней, на зары тысячагоддзя? Напэўна, паўнаводнай Дзвіны заслуга, што калісьці сярод некранутай прыроды вырасла выспа горада, узнялася гожая Сафійка над велічнай плынню ракі, што менавіта Полацк стаў сталіцай княства і калыскай беларускай культуры.

Тысяча гадоў хрысціянству на Беларусі — і столькі ж гадоў нашаму пісьменству. Невыпадкова да арганізацыі і правядзення свята беларускага пісьменства і друку актыўна далучылася і праваслаўная царква.

А пачаткам свята стала экспедыцыя «Дарога да святыняў». Тысячу кіламетраў праехала група пісьменнікаў і навукоўцаў па Беларусі. Жыровічы, Слонім, Баранавічы, Крашын, Навагрудак... У кожным храме пакідаўся агеньчык ад Гроба гасподняга — з той самай лампады, якую крыху квяціста назвалі Непагаснай лампадай духоўнасці і якую беражліва захоўваў айцец Сергій. Ён выступаў разам з іншымі ў школах, бібліятэках, дамах культуры, а ў цэрквах пасля набажэнства браў слова кіраўнік экспедыцыі, старшыня Беларускага фонду славянскага пісьменства, пісьменнік Алесь Петрашкевіч.

***З экспедыцыі.*** *29 жніўня быў устаноўлены і асвечаны крыж паблізу вёскі Загор'е Сталавіцкага с/с Баранавіцкага раёна. Тут па ўказанні кіраўніка мясцовай гаспадаркі былі зруйнаваны і разараны агульныя для некалькіх вёсак могілкі. Косці памерлых бялелі на палях і палохалі жывых. Дзякуючы Ніне Загорскай (а гэта яе родная вёска) факт вандалізму набыў розгалас, намаганнямі пісьменніцы адбылося перазахаванне, на месцы якога і ўстанавілі крыж і мемарыяльную дошку.*

З асаблівай выразнасцю зліццё двух пачаткаў, рэлігійнага і грамадскага, у межах аднаго святкавання выявілася ў Полацку, куды ў суботу 3 верасня прыбыла экспедыцыя. Урачыстай і крանальнай былі сустрэча лампады ў двары Спаса-Ефрасінеўскага манастыра і святочны малебен, у якім прыняў удзел Уладыка Філарэт, іншае высокае духавенства. Цяпер агеньчык, прывезены з Іерусаліма, будзе ззяць у царкве,





# ГАРТАЮЧЫ ВЕЧНЫЯ СТАРОНКІ...

Як вядома, такі назоў мела выстава, што адкрылася ў дні Свята славянскага пісьменства і друку ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Падзагаловак экспазіцыі яшчэ больш канкрэтызаваў яе змест: «Гісторыя беларускага пісьменства». Безумоўна, далёка не ўся. І не толькі таму, што каб сабраць разам усе, нават самыя ўнікальныя матэрыялы, плошчы не хопіць. Ахапіць неахопнае нельга і па іншай прычыне: многія рукапісы, першадрукі захоўваюцца зусім не на тэрыторыі Беларусі, а калі і ёсць у нацыянальных сховішчах, дык не ў згаданай бібліятэцы.

Аднак і тое, што было прадстаўлена, уражвае. Браточкі, чаму ж гэта мы прыбядняемся?! Паглядзіце ўважліва, яшчэ раз паглядзіце! Якое багацце?! Далёка не кожны народ падобнымі набыткамі можа пахваліцца.

У першым раздзеле былі прадстаўлены ў арыгінале беларускія рукапісныя кнігі, а асобныя з іх у копіях — факсіміле. Тут жа размясціліся граматы і прывілеі, пастановы трыбунала Вялікага княства Літоўскага, перапіска прыватных асоб.

Беларускія старадрукі склалі другі раздзел. Найперш гэта выданні славутага Францішка Скарыны. Апераджаў, яшчэ як апераджаў час Францішак, сын слаўнага Полацка, свой час. Першадрукаром стаў тады, калі ў многіх краінах толькі марылі аб выданні кніг. І якія кнігі, дзякуючы яму, пабачылі свет?! Асобныя з іх і былі ў экспазіцыі. Знайшлося месца і выданням П. Мсціслаўца, С. Собаля, іншых выдаўцоў, што працавалі на самым світанку беларускага кнігадрукавання.

Як бы цяжка ні складвалася палітычная сітуацыя ў канцы мінулага — пачатку цяперашняга стагоддзя, тым не менш гэты час стаў спрыяльным для беларускага нацыянальнага Адраджэння. Застаючыся Паўночна-Заходнім краем, Беларусь тым не менш не забывала, што яна Беларусь. У гэтым пераканалі матэрыялы трэцяга раздзела экспазіцыі. «Мужыцкая праўда» Кастуся Каліноўскага (яе трэці нумар), газеты «Наша доля», «Наша Ніва». Праўда, не ўсе нумары ў арыгінале, некаторыя факсімільныя. Ды хіба меншая ад гэтага іх значнасць?! А ўзяць «Вянок» Максіма Багдановіча, «Жалейку» Янкі Купалы, «Песні-жальбы» Якуба Коласа?! Гэта ж таксама нашы вытокі. Вытокі новай беларускай літаратуры, пачатак нацыянальнага Адраджэння.

Знайшлося на выставе месца і бібліяграфіі рукапісаў, старадрукаў. Арганізавана ж экспазіцыя аддзелам рукапісаў, старадрукаў і рэдкіх выданняў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

# І ЎСЁ Ж — СВЯТА...

У рамках Свята нацыянальнага пісьменства і друку ў Мінску прайшоў фестываль беларускай прэсы. Вядома, прыгадаўшы, як адзначаўся Дзень друку ў тым жа парку імя М. Горкага ў Мінску ў колішнія гады, магчыма, называць фестывалем сёлетняе свята і загучна. Калі шчыра, не хапала яму належнай арганізацыі. Ніякавата было глядзець на супрацоўнікаў асобных выданняў, якія спяшаліся афарміць свае стэнды літаральна за пяць хвілін да ўрачыстага адкрыцця. Ды і само афармленне стэндаў выглядала не вельмі...

Але пра тое, што было... У час урачыстага адкрыцця выступіў намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь У. Гілеп... Думаецца, прысутным цікава было паслухаць і аднаго са старэйшых журналістаў, драматурга М. Матукоўскага, гэтаксама як і іншых, хто палічыў патрэбным у гэты святочны дзень падзяліцца думкамі і аб нацыянальным Адраджэнні, і аб далейшых шляхах развіцця беларускага друкаванага слова.

А пасля адбыліся канцэрты, сустрэчы супрацоўнікаў газет з чытачамі. Працавалі і кіёскі, дзе можна было набыць кнігі, перыядычныя выданні. Жадаючыя маглі падпісацца на любімае выданне... Прынамсі, ці не больш за іншых ініцыятыву ў гэтым праявілі ў рэдакцыі газеты «Свабода».

**Н.К.**

заснаванай князёўнай-ігуменняй Ефрасінняй. Ля яе святых мошчаў было сказана шмат узвышаных слоў пра нашыя агульныя каштоўнасці, пра неабходнасць ачышчэння чалавечых душ. Беларусь шукае свой шлях да храма, да святыняў, — падкрэсліў у сваім слове міністр культуры і друку А. Бутэвіч. Усе мы, веруючыя і няверуючыя, людзі розных сацыяльных пластоў і нацыянальнасцей — дзеці Беларусі, і павінны спрыяць яе росквіту.

***З экспедыцыі.*** *Акрамя запланаваных сустрэч з грамадскасцю, адбываліся сустрэчы спантанныя, нечаканыя і тым асабліва дарагія. Вяскоўцы перагароджвалі сталом дарогу, сустракалі гасцей абразом і хлебам-соллю. Вернікі запальвалі ад лампады свечкі і разносілі святы агонь па хатах — расчуленыя, з прасветленымі тварамі.*

*Мабыць, кожны з творчай групы, хто адарваўся ад будзённых спраў, — Г. Далідовіч, В. Коўтун, М. Ермаловіч, М. Біч, У. Падлужны, М. Захарэвіч, многія іншыя — у такія хвіліны адчувалі недарэмнасць і сваёй працы, і гэтай добраахвотнай місіі — хоць на момант сагрэць людскія сэрцы, абудзіць лепшае ў іх.*

Дзень беларускага пісьменства і друку — свята ўсіх, хто піша, хто спрыяе нараджэнню друкаванага слова, і тых... хто чытае. Вось чаму 1 верасня ў школах, ПТВ, тэхнікумах быў такі попыт на пісьменнікаў, а першы дзень заняткаў пачаўся з лекцыі па нашай старажытнай гісторыі.

Напярэдадні святочнай кульмінацыі адбыўся ўрачысты вечар у Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы. І не рытарычныя прамовы на ім гучалі, а змястоўныя і прынцыповыя. Працытую меркаванне рэктара Беларускага універсітэта культуры Я. Грыгаровіч: «Яшчэ давядзецца думаць пра змест свята і яго формы. Адно несумненна: гэта павінна быць свята беларускасці, свята беларушчыны».

У Полацку такі падыход дамінаваў калі не ва ўсім, то ў многім. У праграме былі гістарычна-мастацкае прадстаўленне і канцэрты лепшых музычных калектываў Беларусі, мастацкія выставы, свята дзіцячай кнігі з батлеечным спектаклем, гала-канцэрт з удзелам вядомых эстраднікаў. На адкрыцці паны і паненкі ў старажытных строях вынеслі гербы гарадоў, дзе пачыналася беларускае кнігадрукаванне: Брэста, Нясвіжа, Мсціслаўя, Вільні, Оршы, Кракава, Прагі — і нарэшце самога Полацка, які праславіўся многімі, вядомымі ўсяму славянскаму свету іменамі асветнікаў.

За ўсім, што адбывалася на галоўнай плошчы горада, ля помніка Францішку Скарыну, з цікавасцю назіралі і палачане, і госці — пісьменнікі з Беластока, прадстаўнікі ўлад, сферы навукі, адукацыі, культуры.

***З экспедыцыі.*** *Вёска Лаўрышава, што паблізу Навагрудка, вядомая манастыром, дзе знайшлі славутае Лаўрышаўскае Евангелле 13 ст. Да рэшткаў манастырскіх пабудоў дабрацца аказалася няпроста — яны за Нёманам. Выручылі мясцовыя дзядзькі. Яны прадаставілі ўласны рачны транспарт — лодкі, і творчая экспедыцыя разам з прэсай і раённым начальствам паспяхова пераправілася на другі бераг.*

Пра нашы адносіны да помнікаў старажытнасці казаў на «круглым стале» ў полацкім музеі кнігадрукавання кандыдат гістарычных навук Р. Галенчанка. У Германіі выдалі «Катэхізіс» С. Буднага і Радзівілаўскі рукапіс, у Кіеве — творы Зізанія Сматрыцкага, у Лондане — творы Іаана Златауста, у Ізраілі — першы рукапісны звод Бібліі на беларускай мове 16 ст., у Маскве — прадмова да Евангелля В. Цяпінскага... А што ў нас? Запланавана па ініцыятыве Інстытута гісторыі АН РБ факсімільнае выданне ўжо згаданага Лаўрышаўскага Евангелля. Цікава, што гэты рукапіс у канцы мінулага стагоддзя быў перададзены ў Кракаў для рэстаўрацыйных работ ды так адтуль і не вярнуўся. Зараз ён лічыцца каштоўным помнікам Польскай рэспублікі, і каб выдаць яго, давядзецца пасылаць туды спецыялістаў.

«Кругламу сталу», прысвечанаму праблемам сучаснага кнігавыдання, увогуле не пашанцавала. Адведзеная на яго гадзіна была расходавана нерацыянальна і праляцела як імгненне. Удзельнікі толькі падступіліся да тых самых праблем, як гасцям давялося спешна бегчы на наступнае мерапрыемства.

Міністр культуры і друку пры нагодзе самакрытычна прызнаў, што не ўсё прайшло, як хацелася б. Немэтазгодным бачыцца мне, прынамсі, падзел свята на грамадскую і літаратурную часткі, што праводзяцца ў розных мясцінах. На ўрачыстым адкрыцці, як мне падалося, паэтычнага слова не хапала, між тым як у Нясвіжы выступіла запар каля двух дзесяткаў паэтаў.

Але паколькі новае свята будзе рухомым і вандраваць з горада ў горад, то ёсць надзея на мясцовую ініцыятыву і фантазію. На канцэртах і імпрэзах можна шырэй выкарыстоўваць уласныя таленты — спевакоў, бардаў, чытальнікаў, фальклорныя калектывы. Старажытны Тураў, які прыняў ад Полацка эстафету, мае магчымасць творча падысці да справы.

«Адсюль пачыналася Беларусь», — прамовіў Сакрат Яновіч, гледзячы на Дзвіну з высокага берага ля Сафійскага сабора. На заканчэнне прывяду два супрацьлеглыя меркаванні гасцей пра слаўны горад Полацк.

**Сакрат Яновіч,** літаратар з Беластока: — Гэты занядбаны, шэры горад не ўсведамляе, якую можа мець будучыню. Полацк мог бы стаць месцам паломніцтва, цэнтрам міжнароднага турызму, прапагандуючы сваю тысячагадовую гісторыю. Яго старажытнае гарадзішча давала б у бюджэт болей грошай, чым усе мясцовыя фабрыкі. Здаецца, палачане не ведаюць, якім валодаюць дарам...

**Аляксей Анішчык,** прадстаўнік беларусаў Віленшчыны: — Я адчуваю супольнасць духоўнай культуры Вільні і Полацка, што заўважна ў архітэктуры і ў самім, так бы мовіць, клімаце. Горад аказаў на мяне прыемнае ўражанне, ён ужо не такі, якім быў 20—25 год таму назад. Духавенства паварочваецца тварам да народа, да традыцый, начальства навучылася казаць прамовы, не цураецца роднага слова. Я ўдзячны ўрадавым чыноўнікам, якія наладзілі гэтае свята.

Такім яно было, новае свята — хай сабе і прыдуманае ў казённае ўстанове, але не пазбаўленае душы і сэнсу. Якім яно стане ў далейшым, залежыць ад усіх нас.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*На здымках: на новым свяце выступае новы прэм'ер-міністр; людна было на «круглым стале» ў музеі кнігадрукавання.*

*Фота БЕЛІНФАРМ*

# ПЕРШЫ ПЛЁН СУПРАЦОЎНІЦТВА



4 верасня ў Мінску, у мікраёне Паўднёвы Захад адбылося ўрачыстае адкрыццё Міжнароднага адукацыйнага цэнтра (ІББ), які створаны па ініцыятыве кіраўніцтва зямлі Паўночны Рэйн—Вестфалія. Цэнтр ІББ з'яўляецца не толькі першым беларуска-германскім адукацыйна-культурным цэнтрам сярод краін былога Саюза, але і месцам канкрэтнага германа-беларускага супрацоўніцтва ў агульнаеўрапейскім доме.

Для будаўніцтва і эксплуатацыі Міжнароднага адукацыйнага цэнтра (ІББ) было створана сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства, зарэгістраванае ў 1991 г. у Мінску як першае грамадскае сумеснае прадпрыемства, усе органы якога прадстаўлены абодвума бакамі. Будаўніцтва Цэнтра фінансавалася ў роўных долях нямецкім і беларускім бакамі. З нямецкага боку сродкі выдзяляліся кіраўніцтвам зямлі Паўночны Рэйн—Вестфалія, Евангелічнай царквой, АТ «Фольксваген»



і прыватнымі ахвяраваннямі грамадзян. З боку рэспублікі Беларусь — Бюро міжнароднага турызму «Спутник» пры падтрымцы рэспубліканскага ўрада і адміністрацыі г. Мінска.

22 чэрвеня 1991 г. адбылася сімвалічная закладка першага каменя ў будаўніцтва гэтага Цэнтра. Менавіта нямецкі бок вырашыў здзейсніць гэту акцыю ў дзень пачатку захопніцкай вайны, якую распачала фашысцкая Германія 50 гадоў назад, бо Беларусь панесла найбольшыя страты ў гэтай разбуральнай вайне. Як адзначыў кіраўнік праекта намеснік прэм'ер-міністра зямлі Паўночны Рэйн—Вестфалія, міністр унутраных спраў доктар Г. Шнор, — мы прыйшлі сюды, каб прадэманстраваць жыхарам Беларусі, што мы не забылі мінулага, што мы шукаем шляхі прымірэння і пакаяння і нясём адказнасць за нашую агульную будучыню.

Урачыстая цырымонія адкрыцця пачалася экуменічным богаслужэннем з удзелам Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха Усея Беларусі Філарэта і Прэзеса Евангелічнай царквы Вестфаліі д-ра Х. М. Ліннемана. Прадстаўнікі Евангелічнай царквы Германіі і Праваслаўнай царквы Беларусі здзейснілі малітву на асвячэнні дома. Як адзначыў Мітрапаліт Філарэт, — гэта акцыя адбылася ўпершыню паміж цэрквамі Германіі і Беларусі.

Ва ўрачыстай акцыі адкрыцця прыняў удзел мэр горада Мінска А. Герасіменка. Саветнік прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лябедзька ад імя прэзідэнта рэспублікі вітаў усе дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі Германіі, якія прынялі ўдзел у ажыццяўленні гэтага праекта. З асобай увагай было сустрэта выступленне Герберта Шнора — кіраўніка і духоўнага натхніцеля ўсяго гэтага праекта.

Беларускі кіраўнік Цэнтра прафесар Анатоль Міхайлаў адзначыў, што знікненню межаў паміж народамі спрыяла ўмацаванне гуманітарнага супрацоўніцтва. На яго думку, у палітыцы, эканоміцы, рэлігіі і культуры хутка павінны з'явіцца рысы агульнаеўрапейскага дома.

Міжнародны адукацыйны цэнтр 5 верасня распачаў сваю работу Прагграмным кангрэсам «На шляху да грамадзянскага саюза».

З адкрыццём Міжнароднага адукацыйнага цэнтра ў Мінску адкрываюцца новыя магчымасці для навучання, дыялога, сустрэч і супрацоўніцтва. Групы з Беларусі, Германіі і іншых краін з дапамогай вопытных педагогаў і вучоных будуць праводзіць сумесныя сустрэчы, семінары, кангрэсы. Тут будуць сустракацца людзі з агульнымі інтарэсамі: моладзь з розных краін, члены розных рэлігійных абшчын, прадстаўнікі прафесіянальных груп, вучоныя, палітыкі, эколагі, дзе яны атрымаюць магчымасць абмяркоўваць шматлікія праблемы. Выдзяляюцца асноўныя тэмы ўзаемасупрацоўніцтва: асэнсаванне гісторыі, палітыка міру, новыя тэхналогіі, дыялог «Поўнач-Поўдзень», экуменія. Спектр тэм можа расшырацца да праблем міжнароднага эканамічнага, палітычнага і культурнага супрацоўніцтва.

**Зоя ЛЫСЕНКА**

*На здымках: такі ён — цэнтр; А.Герасіменка і Г.Шнор на ўрачыстым адкрыцці; асвячаецца новы будынак.*

*Фота П. КАСТРАМЫ*



# БУДЗЬМА РАЗАМ!

**Ф. СП-1**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63856** (індэкс выдання)

**«Літаратура і мастацтва»** Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | лі тар |
|---|---|---|
| | | |

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету **63856** (індэкс выдання)

**«Літаратура і мастацтва»**

| Кошт | падпіскі | ______руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______руб.___кап. | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**Кошт падпіскі на «ЛіМ» на чацвёрты квартал гэтага года: на 3 месяцы — 600 рублёў; на 2 месяцы — 400 рублёў; на 1 месяц — 200 рублёў.**

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ПЕРШЫ НАПАМІНАК ПРА... НОВЫ ГОД

**Ім стаў адрыўны каляндар «Родны край» на наступны, 1995 год, які днямі з'явіўся ў кнігарнях рэспублікі. Гэтым разам выдавецтва «Беларусь» паклапацілася, каб жадаючыя набыць яго маглі зрабіць гэта загадзя. Што ж, памкненне добрае, бо, не будзем забываць, раней той самы «Родны край» запазняўся. Наклад календара — 200 тысяч асобнікаў (для прыкладу, сёлетні меў усяго 130 тысяч). Добра, што вытрыманы прынцып, які быў і дагэтуль: даць як мага больш інфармацыі пра самыя розныя бакі жыцця, каштоўныя парады, расказаць пра знамянальныя даты і падзеі, пазнаёміць з народнымі звычаямі, абрадамі.**

# БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ Ў ЗАХОДНЯЙ НЯМЕЧЧЫНЕ

**Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку з дапамогай Паліграфічнага прадпрыемства студэнцкай арганізацыі працы «Падляска» ў Беластоку выдаў сёлета кнігу Яна Максімюка «Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне: 1945—1950». Аўтар, вядомы журналіст і перакладчык з англійскай мовы, у прадмове піша: «Без нацыянальнай школы няма нацыянальнай свядомасці... Справа ў тым, што нацыянальная свядомасць мацуецца не столькі на кроўнай (біялагічнай) повязі, колькі на адчуванні духоўнай еднасці з бліжнімі, за якімі супольны... лёс. Гэткае адчуванне не даецца чалавеку ад прыроды як нейкі інстынкт; яго трэба набыць. Кажучы канкрэтна — яму трэба навучыцца. Школа ў набыванні нацыянальнае свядомасці сапраўды незамяняльная. Без яе — мы і далей будзем сузіраць тое, што цяпер называем... адраджэннем: разбіванне лбоў невялікае групы інтэлігенцыі аб сцяну паўсюднага нацыянальнага нігілізму ці абыякавасці асноўнае масы патэнцыяльных беларусаў. А дзеецца так не з волі нейкага fatum, а з прычыны неадпаведнай адукацыйнай сістэмы. Беларусам наогул не шанцавала на настаўнікаў і школы. Калі ўсё ж шанцавала, вынікаў не трэба было доўга чакаць»...«АДНО НЕСУМЛІЎНА: ПАКУЛЬ НЕ БУДЗЕ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ (І ШЫРЭЙ — БЕЛАРУСКАЙ АСВЕТНАЙ СІСТЭМЫ), НЕ БУДЗЕ І ТАГО ПАЖАДАНАГА ШЫРОКАГА ЗРУХУ Ў БОК НАРМАЛЬНАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЖЫЦЦЯ», — пастулюе аўтар.**

**І далей на прыкладзе беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (паваенны час) Я. Максімюк паслядоўна і дэталёва распавядае пра задзіночанне беларусаў, што апынуліся за мяжою ў той час, і пра выключную ролю школы, асветы ў паяднанні і сталенні дзяцей-беларусаў. (У той гімназіі вучыліся шмат хто з сучасных слынных прадстаўнікоў беларускай эміграцыі...). Да факталагічнага аповяду прылучаны таксама надзвычай змястоўны дакументальны дадатак: фотаархіў, імянны паказнік, а таксама... тэмы пісьмовых экзаменаў на атэстат сталасці па нямецкай мове і матэматыцы і праграма гісторыі беларускай літаратуры ў гімназіі... Як падаецца, цалкам патрэбную і надзённую справу зрабіў Ян Максімюк з апекавання Камітэта былых вучняў Гімназіі імя Янкі Купалы (Ала Орса-Рамана, Міхась Белямук, Зора Кіпель, Вітаўт Кіпель, Янка Раковіч, Юрка Станкевіч) і Фонду імя Івана Любачкі, — кніга пра гімназію напэўна будзе не толькі своеасаблівым помнікам самой гімназіі і яе вучням, але і дзейсным псіхалагічным падмацункам сучасным дзеячам асветы на Бацькаўшчыне.**

**Ю. З.**

# ВЫЙШЛІ З ПАДПОЛЛЯ

**25 жніўня скончылася прымусовае падполле Таварыства вольных літаратараў (Мінюст часоў антановічаў і замяталіных не жадаў рэгістраваць рэспубліканскую літаратурную суполку). У гэты дзень Наваполацкім гарвыканкамам была зарэгістравана мясцовая філія ТВЛ. Сярод яе сяброў не толькі пісьменнікі, але і мастакі, спецыялісты па камп'ютэрах. У бліжэйшых планах наваполацкіх «тэвээлаўцаў» стварэнне выдавецтва, супрацоўніцтва з Наваполацкім дзяржаўным універсітэтам, у якім сёлета пачаў працаваць гісторыка-філалагічны факультэт, выданне кніг, у тым ліку і дзіцячых.**

А. К.

# НА ЗЯМЛІ СТАРАЖЫТНАЙ, СЛАВУТАЙ

Сонечным вераснёўскім днём, які амаль нічым не розніўся ад летняй цеплыні, ажыўлена было на вуліцах старажытнага і вечна маладога Нясвіжа. Ішлі людзі сталага веку і моладзь пасвяточнаму апранутыя да таго месца, дзе ўзвышаецца неадарваная ад роднай зямлі мудрая і натхнёная постаць вялікага беларуса, асветніка эпохі Адраджэння, гуманіста, філосафа, слыннага сына нашай зямлі Сымона Буднага, які простым «людзям скарб слова нёс».

Тут, у Нясвіжы, больш чым чатырыста гадоў назад упершыню на беларускай мове ён надрукаваў кнігі «Катэхізіс» і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам». Тут, ля гэтага помніка, і пачалося свята — Дзень беларускага пісьменства і друку. Адкрыў яго намеснік старшыні нясвіжскага райвыканкама Мікалай Жук. Усхвалявана ён гаварыў на беларускай мове пра родную зямлю, пра тых, хто праславіў яе сваёй дзейнасцю і творамі. З Нясвіжчынай былі цесна звязаны жыццё і творчасць многіх славутых сыноў нашай Бацькаўшчыны: гуманіста і кнігавыдаўца Васіля Цяпінскага, вясковага лірніка Уладзіслава Сыракомлі, этнографа Адама Багдановіча, фалькларыста Аляксандра Сержпутоўскага, а таксама беларускіх пісьменнікаў дваццатага стагоддзя — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Рыгора Мурашкі, Васіля Сташэўскага, Уладзіміра Жылкі...

Выступленне намесніка мэра Нясвіжа працягнуў узнёслым, пранікнёным словам і вершам у гонар пісьменства лаўрэат Дзяржаўнай прэміі паэт Сяргей Грахоўскі. З удзячнасцю слухалі прысутныя, якія літаральна жывым вянком абступілі скульптуру, аўтара помніка Сымону Буднаму — Святлану Гарбунову.

А затым свята пад бадзёрую аркестравую музыку рушыла ў гістарычны маляўнічы парк Радзівілаў, дзе на прыгожа абстаўленай сцэнічнай эстрадзе сярод векавых клёнаў і ліп гучала слова паэзіі. Тут, пад гэтымі ўзносістымі, але крыху пажаўцелымі шатамі парку, згадваліся радкі чалавека шчырага сэрца, вечнага пакутніка С. Новіка-Пеюна:

**Шумяць нада мной залацістыя клёны.**
**Шнуром жураўлі падняліся ўзвыш.**
**Мне хочацца славіць Радзіму натхнёна**
**І песню спяваць аб табе, мой Нясвіж.**

Цёпла ўспрымалі нясвіжчане вершы, прысвечаныя С. Буднаму, Ф. Скарыну, Я. Купалу, роднаму краю, высокаму чалавечаму пачуццю, народу, матчынай мове. Даўно Нясвіж не бачыў і не чуў адразу столькі паэтаў і пісьменнікаў. А сярод іх былі творцы, чые імёны вядомы не толькі ў рэспубліцы. Краналі сэрцы слухачоў радкі Сяргея Грахоўскага, Петруся Макаля, Уладзіміра Някляева, Юрася Свіркі, Уладзіміра Паўлава (дарэчы, ён вёў паэтычнае свята), Паўлюка Пранузы, Алеся Пісьмянкова, Валянціны Аколавай, Уладзіміра Скарынкіна, Уладзіміра Ліпскага, Казіміра Камейшы, Алеся Емяльянава, Уладзіміра Мазго, Яўгена Хвалея, Вячаслава Стомы. Не засталіся на гэтай сустрэчы абыдзенымі і члены творчага аб'яднання «Нясвіж» і раённай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны. Апладысменты выпалі і на долю паэта-барда Алега Атаманава. Яго песні ад душы падхоплівала зала. Пасля адбыўся канцэрт мясцовых артыстаў.

Дзень беларускага пісьменства і друку, што зліўся з Рэспубліканскім святам паэзіі, паказаў, што на Нясвіжскай зямлі думаюць пра нацыянальна-культурнае адраджэнне, любяць мастацкае слова і ўмеюць ушаноўваць творцаў.

**М. ЮР'ЕЎ**

Адгалоскі

# ШЛЯХ ДА ІСЦІНЫ

«Ступае ісціна па жэрдцы-палачцы...» Гэтыя барадулінскія словы ўспомніліся, калі знаёміўся з допісам Міхася Баўтовіча «Яшчэ пра «Фэльку з Рукшэніц» («ЛіМ», 19.08.1994). Там справядліва крытыкуецца маё меркаванне пра месца нараджэння Ф. Тапчэўскага, выказанае ў зборніку «Шляхам гадоў» (вып. 2, 1990). Прапанова самога М. Баўтовіча на гэты конт, яе грунтоўная распрацоўка з выездам на месца, выглядае досыць сур'ёзна і, здавалася б, пераканаўча.

Але цяпер адкрыліся зусім новыя акалічнасці, якія змяняюць усю сітуацыю.

Здабытыя апошнім часам звесткі прымушаюць вярнуцца да версіі вядомага нашага краязнаўца Генадзя Каханоўскага.

Нагадаем, у 1972 годзе Каханоўскі пабываў у Рукшаніцах-Глыбачцы і даведаўся ад старажылаў, што фальварак Тапчэўскіх называўся Лёсава і знаходзіўся за паўтара кіламетра на паўднёвы захад ад Рукшаніц. Лёсава як месца нараджэння паэта ўвайшло тады ў даведачныя выданні (Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Віцебская вобласць. Мн., 1985; ЭЛіМБел, т. 5, 1987).

Але тут якраз пашчасціла выявіць у віленскім архіве надзвычай каштоўны матэрыял — следчую справу пра дачыненне паэта да паўстання 1863 года. Новы матэрыял — заўсёды новыя пытанні. Там Лёсава зусім не ўспаміналася, а ўсё Будзішча ды Будзішча, маленькі спадчынны маёнтачак-хутар Тапчэўскіх. Узнікла думка, што Лёсава — пазнейшы набытак Фелікса Тапчэўскага, а нарадзіўся ён у старадаўнім сямейным гняздзе Будзішчы. Асталалася зрабіць прывязку гэтага маёнтка да пэўнай мясцовасці, і тут, працуючы над старымі і новымі картамі і даведнікамі, я, можа, і не надта абачліва, заблукаў ажно за Дзвіну (колішні Полацкі павет распасціраўся і туды — на Шумілініччыну). Праўда, паводле тапанімічнага даведніка Я. Рапановіча, у Шумілінскім раёне два Будзішчы (увогуле назва, відаць, не з рэдкіх). Я меў на ўвазе тое, што знаходзіцца ў Мікалаеўскім сельсавеце, у калгасе «Дзвіна» (яно павінна быць бліжэй да Вулы, дзе працаваў пісарам Тапчэўскі, чым паказана на схеме М. Баўтовіча). Тым не менш такое рашэнне не задавальняла да канца мяне самога (М. Баўтовіч, вядома ж, мае тут рацыю), пэўную слабінку ў сваёй гіпотэзе я адчуваў, нешта ўсё муляла, трывожыла. Таму пошукі працягваліся, давялося нямала папахадзіць па архівах і бібліятэках. Гэтую працу стымулявалі і новыя, больш дэталёвыя карты, якія якраз тады — у эпоху адкрытасці — з'явіліся ў «паспалітым» ужытку.

І вось у нашай Нацыянальнай бібліятэцы адшукалася кніга, якая выйшла ў 1907 годзе ў Віцебску пад рэдакцыяй вядомага гісторыка-краязнаўца А. Сапунова, — «Землевладение и землевладельцы Витебской губернии в 1905 году». Гэта алфавітныя спісы землеўласнікаў па паветах, а ўнутры паветаў па станах-катэгорыях: асобна дваране, святары, купцы, мяшчане, сяляне. Тапчэўскіх няма ані знаку ні ў адной катэгорыі, сам паэт да таго часу ўжо даўно памёр. Але Генадзь Каханоўскі пісаў, што дачка паэта Тэкля была замужам за Радзішэўскім. І тут чакала ўдача. У спісе землеўласнікаў-мяшчан Полацкага павета ёсць запіс: «182. Радишевская Фекла Феликсовна, быв. Топчевского Феликса Феликча». І назва ўладання — «Лиосова или Будище». Далей пазначана веравызнанне ўладальніцы — рымска-каталіцкае (р/к), паштовы адрас маёнтачка-хутара (праз г. Полацк) і яго памеры: 34 дзесяціны раллі, 3 лесу, усяго 37 дзесяцін.

Усё адразу ўстала на сваё месца. Зусім дарэмна я спрачаўся з Каханоўскім. Класны следапыт з велізарным вопытам краязнаўча-музейнай і мемарыяльнай працы, ён усё выдатна разведаў. Проста хутар Лёсава раней называўся Будзішчам. Цікава, што дачка паэта паказана ў спісах землеўласнікаў-мяшчан. Чаму? Можа, Тапчэўскія не былі афіцыйна зацверджаны ў дваранстве, як напрыклад, сям'я Я. Купалы. Або да мяшчан належаў яе муж (паводле гэтага ж даведніка мяшчане Радзішэўскія валодалі 175 дзесяцінамі ў суседняй Глыбачцы). Але гэта ўжо дробязі. Галоўнае ўстаноўлена — Фелікс нарадзіўся ў Будзішчы (Лёсаве) каля Рукшэніц (за паўтара кіламетра на паўднёвы захад; тут зусім побач і Асінаўка — маёнтак яго сябра А. Камёнкі). Усе астатнія версіі, у тым ліку, выходзіць, і М. Баўтовіча, такім чынам адпадаюць. Хрышчоны паэт, несумненна, у Рукшэніцкім касцёле (на жаль, метрычныя кнігі за 1838 год не захаваліся). У сваім вядомым псеўданіме ён зашыфраваў месца нараджэння. Ды і ўсё наступнае яго жыццё знітавана з Лёсавым-Будзішчам, з Рукшэніцамі (Рукшаніцамі).

Пра ўсё гэта, пра нялёгкія пошукі навуковай ісціны, пра ўдачы і няўдачы на гэтым калдобістым шляху, я расказваю ў сваёй новай кнізе «Радаводнае дрэва», якая рыхтуецца да выхаду ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

**Генадзь КІСЯЛЁЎ**

Алег ЛОЙКА

# ЦІ АБАВЯЗАНЫ ПАЭТ БЫЦЬ ГРАМАДЗЯНІНАМ?..

ТВОРЦА І ГРАМАДА

Якраз сёння — у часе посттаталітарным, каб яго і сябе ў ім глыбей зразумець, відаць, найперш трэба шырэй і па-новаму ўбачыць менавіта час дататалітарны, вярнуцца на кругі пераднашыя. Тое, пра што пойдзе размова, пачыналася, вобразна кажучы, як хмара, якая не ведала, што яна будзе хмарай, ды яшчэ чорнай, ды яшчэ не проста грымотлівай і маланкавай, а жахліва забойчай, спапяляючай і няўмольнай у сваёй разбуральнай стыхіі, як і ў пераіначванні, дыктаце, рэгламентацыі, гвалце. А дзе гвалт, там драмы і трагедыі.

Тою хмараю ўсё было запачаткавана спачатку ў рускай, затым і ў кожнай блізкай да яе ці залежнай ад яе літаратурах. Прыватныя нібы справы адной эстэтыкі, адной паэзіі прывялі, нарэшце, да такіх вынікаў, якія і не сніліся ні А. Пушкіну, ні, пэўна ж, М. Някрасаву, ні А. Фету. Бо ці ж маглі яны прадбачыць бальшавізм, таталітарызм, сацыялістычны рэалізм? Бо ці ж маглі яны ведаць, што іх літаратурная спрэчка абернецца драмамі і трагедыямі людскімі, ды і найвялікшай драмай асобных нацыянальных паэзій, як, напрыклад, драмай нашай нацыянальнай паэзіі, якая прадаўжаецца і зараз, у час посттаталітарны, і вырвацца з сілкоў якое не вельмі проста?..

Іншымі словамі, чорная хмара дэфармацыі паэзіі, якая наплыла на яе з усталяваннем рэжыму таталітарызму, ніяк яшчэ за гарызонт не сплыла. Яна ўсё яшчэ засціць чысты блакіт паэзіі, высокую высь паэзіі, як на зямлі беларускай, так і рускай, украінскай, як, напэўна, і на ўсіх землях усіх былых рэспублік былога СССР.

Пагэтаму, маючы за мэту вяртанне на кругі перадсвае, мы пачнём з вяртання на кругі не ўласна перадсвае, а на кругі суседняй нам паэзіі, без якое шмат у чым не было б і паэзіі ўласна нашай, нацыянальнай, ад якое мы, беручы шмат што, узялі і бяду сваю. Не ў асуджэнне чагосьці ці кагосьці будзе ў нас тут усё гаварыцца, а менавіта з горыччу і за бяду суседзяў, і за сваю бяду.

Такім чынам, калі і пры канцы нашага XX стагоддзя канца драмы, што дзеецца ў паэзіі ўсходніх славянаў вось ужо каля паўтараста стагоддзяў, не відно, то пачатак яе відзён дастаткова выразна — пачатак, звязаны з вершамі Пушкіна «Паэт», «Паэт і натоўп», «Паэту», «Я помнік сабе ўзнёс нерукачынны», «Не дорага цаню я гучныя правы...»

Два апошнія з іх — 1836 года — былі, вядома ж, у працяг папярэдніх — 1827, 1828, 1830 гадоў. Усе яны сталі для рускай паэзіі праграмнымі — аж да савецкага ў ёй перыяду, сталі ўласна падмуркам яе ўзвышэння на форуме ўсееўрапейскай паэзіі, бо сталі пераемнымі і для рускай паэзіі XIX стагоддзя так званага срэбнага веку, і для так званай дэкадэнцкай пачатку XX стагоддзя. Такім чынам, як прадвырашальналёсавы, гэты цыкл пушкінскіх вершаў нас зараз вельмі цікавіць.

У Пушкіна ў ім усё пачыналася, так бы мовіць, з паўдэмакратызму, бо ў самым першым вершы цыклу ў цэнтры вобраз паэта, як часткі натоўпу: «пакуль не патрабуе паэта да свяшчэннай ахвяры Апалон», ён — не паэт, ён — звычайны чалавек («быть может всех ничтожней он»!). Ды на гэтым паўдэмакратызме, паўэлітарызме Пушкін не спыніўся. Верш «Паэт і натоўп», санет «Паэту» сталі ў яго проста як бы ваяўніча антыдэмакратычнымі, — дэманстратыўна антыдэмакратычнымі. «Кругом **народ непосвященный... бессмысленно** внимал»; «...Толковала **чернь тупая**», «...народ, **поденщик, раб нужды, забот**; «подите прочь — какое дело поэту мирному до вас!»; «Поэт! Не дорожи любовию народной...» — усё гэта нібы і не патрабуе каментарыяў і разам з тым вунь як патрабуе. Бо ніякі не антыдэмакратычны быў у гэтых сваіх усіх азначэннях і інвектывах Пушкін, як і марна дашуквацца за імі якога-небудзь канкрэтнага адрасата: вышэйшы прыдворны свет, прыніжаны гарапашны чорны люд. Бо справа для Пушкіна насамперад ішла аб адным самым агульным, самым важным для яго і самым важным для лёсу паэзіі наогул, найперш рускай, — аб самым першасным у паэце. Гэтаму самаму першаснаму супрацьпастаўлялася Пушкіным усё, што, паводле ягонага сэрца, было варожае паэзіі, несумяшчальнае з ёй, што было не яе існасцю, не яе мэтай. Паэзія для Пушкіна — ідэал; эстэтычныя крытэрыі для яго — першасныя і адзіныя. Толькі паводле іх павінна тварыцца паэзія, а творца павінен іх ўсведамляць, быць імі апантаны. Менавіта прыклад такой ваяўнічасці і даваў Пушкін сваімі вершамі пра паэта і натоўп, і іхняя нібы недэмакратычнасць на самай справе была выявай вышэйшага паэтавага дэмакратызму, бо Пушкін ад сябе і ад паэтаў патрабаваў сапраўднай паэзіі, пры разуменні, што толькі сапраўдная паэзія патрэбна людзям, народу, толькі сапраўдная паэзія робіць паэта «любезным» народу і славу паэта сярод паэтаў узносіць.

І гэта шчасце рускай паэзіі, што ў ёй быў А. Пушкін з яго праграмнымі для паэзіі і запаветнымі для паэтаў радкамі:

**Ты царь: живи один. Дорогою свободной**
**Иди, куда влечет тебя свободный ум,**
**Усовершенствуя плоды любимых дум,**
**Не требуя наград за подвиг благородный.**

У сусветнай паэзіі, можа, і няма больш высакароднай вымовы элітарнасці паэта, больш апафеознага сцвярджэння неабходнасці свабоды для яго з запатрабаваннем ад яго ўдасканальвання «плёну любімых дум». І пра ўзнагароды тут добра, і пра подзвіг, бо сціпласць бескарыслівасці як бы збалансавана тут «нясціплай» самаацэнкай працы паэта як «подзвігу высакароднага»...

Руская паэзія, аднак, ва ўсім XIX і XX стагоддзях так зайздросна развівалася не толькі таму, што слухалася запаветаў А. Пушкіна, але і таму, што іх не слухалася, што іх аспрэчвала. І, можа, больш за ўсё аспрэчвала дыскусійнае і для нас сёння:

**Не для житейского волненья,**
**Не для корысти, не для битв,**
**Мы рождены для вдохновенья,**
**Для звуков сладких и молитв.**

Так званая рэвалюцыйна-дэмакратычная руская крытыка мінулага стагоддзя колькі ж патраціла пораху на падрыў палацавых калон гэтага выдатнага гмаху-бельведэра пушкінскай думкі! Колькі здзеклівасці было, знішчальнай іроніі ды і грацыёзнасці ў зрынанні долу гэтага нібыта мастацтва для мастацтва, якое нібыта парвала свае сувязі з народам, з прагрэсам, з часам, з новым векам! Славуты дабралюбаўскі прыклад з вобразам лістка, апяванне якога нібыта нічога не вартае, тым больш у параўнанні з паэзіяй, што паставіла сябе на службу сапраўднай народнасці, быў сапраўды забойчым для эстэтаў — у вачах, вядома, усіх тых, хто прыняў для сябе як евангелле паняцце аб народнасці Вісарыёна Бялінскага, якое ў 60-х гадах мінулага стагоддзя высока ўзнялі на шчыт Мікалай Дабралюбаў і Мікалай Чарнышэўскі. Палітыка і ідэалогія ўмешваліся ў эстэтыку. Прагматык Дзмітрый Пісараў цалкам нігілістычна адмаўляў не толькі элітарнасць Пушкіна, але ўсяго Пушкіна, усю паэзію наогул. Названыя ў савецкі час рэвалюцыйнымі дэмакратамі Бялінскі, Дабралюбаў, Чарнышэўскі цалкам Пушкіна не адмаўлялі, бо зрабіць такое ўвогуле немагчыма, што пацвердзіў і вопыт Пісарава. Затое працяг традыцыі пушкінскага элітарызму, які меў месца ў так званым срэбным веку рускай паэзіі XIX стагоддзя, асабліва ў паэзіі Афанасія Фета, рэвалюцыйна-дэмакратычныя крытыкі не тое што адмаўлялі, яны яго ўсімі фібрамі душы зваёўвалі. І што з таго, што вобраз лісцейка ў паэзіі А. Фета быў сімвалічны, падтэкставы, псіхалагізаваны — «этот листок, что иссох и свалился» и «золотом вечным горит в песнопеньи» ці той «лист кленовый», што «в ночь краснеет..., что жизнь любя, не в силах жить», — пустым ненародным заняткам утрыравана аб'яўлялася паэтызацыя лісця ўвогуле. А ў выніку публіцыстычна-крытычны дабралюбаўскі вобраз лістоты стаў тым лістком, што закрыў агульначалавечую, нацыянальную, гуманістычную паэзію памешчыка-эстэта А. Фета — паэзію праграманую па-пушкінску, патрыятычную і сапраўды дэмакратычную. Прычым, як праграмная па-пушкінску, яна нас сёння ў посттаталітарны час надзвычай цікавіць. І Пушкін і Фет — паэты перадтаталітарныя, як і дасавецкія А. Блок, В. Брусаў, да сувязей з бальшавікамі Уладзімір Маякоўскі. Маякоўскі, аднак, не быў пераемнікам, як Блок ці Брусаў, Г. Ахматава ці М. Цвятаева, — А. Фета. Ды галоўнае, што не па пушкінска-фетаўскай дарозе пайшла руская савецкая паэзія, уся заслуханая ў крытыку мастацтва для мастацтва, служба якому была ўрэшце аб'яўлена безыдэйнасцю, антынароднасцю. А ці ж тое, што для вульгарна-сацыялагічных крытыкаў савецкага перыяду было «безыдэйным, антынародным», ці было яно ў сваёй істоце такім?

Тут варта сказаць, што А. Фет — паэт, відавочна, праграмны не толькі для свайго часу, але і на кожны час, у тым ліку і для нашага посттаталітарнага перыяду, для таго нашага сённяшняга дня, для якога вельмі важна рашыць праблему дэмакратычнага светапогляду пры ацэнцы літаратурных з'яў таталітарнага перыяду і ўвогуле праблему ўзаемаадносін творцы і грамады.

Эстэтыка так званых рэвалюцыйных дэмакратаў, ставячы паперадзе крытэрый народнасці і патрабуючы ад мастацкага слова службу ідэалагічнай дактрыне, па сутнасці, адчужала літаратуру, паэзію ад іх першаасновы, іх першародства, іх натуральнай матэрыі. Эстэтыка рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў пачала заганяць літаратуру ў таталітарнае сіло. Бальшавікі адразу так па-асабліваму прыязна і ўхапіліся за ўтылітарнасць, якая першасным прынцыпам пракламавалася М. Дабралюбавым і М. Чарнышэўскім, бо гэта напрасткі вяло ад яго да аб'яўлення літаратурнай службы «колцам і вінцікам пралетарскай справы». Прынцып партыйнасці ў літаратуры, формула «партыйнасць — вышэйшая ступень народнасці» і выраслі з супрацьпастаўлення сябе пушкінскай і цютчаўска-фетаўскай элітарнасці, з ахайвання элітарнасці ў літаратуры як такой. Ды калі ні М. Дабралюбаў, ні М. Чарнышэўскі не былі дэмагогамі, пракламуючы эстэтыку рэалізму і народнасці, то апора на іх у XX стагоддзі нарматыўнай сацрэалістычнай крытыкі была і камуфляжам, і дэмагогіяй, — пры кан'юнктуршчыне, пры дэгуманізацыі, дээстэтызацыі, дэфармацыі літаратуры ў цэлым, паэзіі — у прыватнасці.

Такім чынам, у атмасферы таталітарнай кан'юнктурнасці, дэмагагічнага патрабавання ад літаратуры грамадзянскасці вырошчваўся пышны квет літаратуры **імітацыйнай**, псеўданароднай. Сацрэалізм імітаваў формы рэалізму як нібы праўдзівага адлюстравання жыцця ў літаратуры, а лозунгам бальшавіцкай народнасці прыкрывалася псеўданароднасць. На самай жа справе партапаратчыкам патрэбна была не праўдзівая, не дэмакратычна-свабодная літаратура, а **імітацыя** грамадзянскасці, такая служба літаратуры, якая была ілюстрацыйнай, на мове вобразных сродкаў прапагандавала б ідэалагічныя догмы і партыйныя заклікі, запатрабаванні пралетарскасці, ідэйнасці, сучаснасці, рабочай тэмы, стварэння вобраза камуніста, вобраза ворага ўнутранага і знешняга і г. д. Зразумела, што пры ўсім гэтым свабода думкі, воля мастака, мастацкі пошук ігнараваліся, асоба, індывідуальнасць мастака прымаліся да таго моманту, пакуль яны заставаліся ў рамках, рэгламентаваных пастановамі цэнтральных органаў партыі, нарматызаваных тэорыяй і практыкай сацрэалізму, пільнаваных зоркім вокам крытыкаў не ад прынцыпаў эстэтыкі, а скрозь і заўжды ад прынцыпаў у большай ці меншай ступені звульгарызаваных і здэгуманізаваных...

«Партыя і народ — адзіныя!» — гэты лозунг таталітарызму перш за ўсё быў на ўслузе ў руйнавальшчыкаў творчай асобы, праўдзівай літаратуры, сапраўднай народнасці ў літаратуры, літаратуры як прыгожага пісьменства ўвогуле. Аб'яўляючы сябе адзіным выразнікам інтарэсаў народа, партыя любой асобе прад'яўляла абвінавачанні ў буржуазным індывідуалізме і антынароднасці, калі не з голасу партыі хтосьці нешта наважваўся мовіць. Магілаю свабодзе чалавека быў таталітарызм, а, значыць, магілаю і паэзіі, магілаю сапраўднай чалавечнасці.

І як сапраўды тут тое было да месца: «Паэтам можаш ты не быць...»! І як часта паэты тады не былі паэтамі, бо важная была тэма, а не яе мастацкае вырашэнне. Няважна было, ці твор сапраўды мастацкі, ці не, — важна было, каб за пралетарскае, ленінскае, сталінскае, хрушчоўскае, брэжнеўскае... А калі, як «Ціхі Дон» М. Шолахава ці «Новая зямля» Якуба Коласа, творы, зарыентаваныя на класіку, удаваліся як эпапеі народнага жыцця, дзякуючы магутнасці талентаў іх творцаў, ці калі тыя ці іншыя раманы з вобразамі камуністаў, рабочых, сялян аказваліся прыстойнымі па форме, бо ўдала імітавалі класічныя ўзоры еўрапейскай прозы XIX—XX стагоддзяў, — тое аб'яўлялася «савецкай класікай».

Прычым «савецкая класіка» і ў паэзіі, і ў прозе, і ў драматургіі, і ў кінематографе, і ў жывапісе, і г. д. была сапраўды шырока напрацавана. Склаліся сацрэалістычныя каноны, стэрэатыпы — пры табу на ўсё, што пярэчыла нарматыўнасці.

На чым было тады табу? Доўгі час на рамантызме, алегорыі і заўсёды на падтэксце, мадэрнізме, эксперыменце — на ўсім, што магло як-небудзь стаць правадніком ідэй ненаскіх. Партапаратчыку ад літаратуры патрэбна было ўсё простае, як рэпа. «Пішыце проста!» — гэта з папулярных у канцы 30-х гадоў літаратурных заклікаў М. Горкага, які, у прыватнасці, прывёў і беларускую паэзію першых пасляваенных год да спрашчэнства, да бытаапісальнага прымітыву...

Дэградаванне паэтычнай формы — гэта, усё ж, на паперы. Папера ўсё сцерпіць; папера ўсё сцярпела. Зусім іншае — трыванне пакутаў пры стратах-ахвярах чалавечых, тысячна-, мільённачалавечых. А і да страты жыццяў паэтамі і непаэтамі прывяло колісь аднойчы моўленае паэтам, затым неаднойчы паўторанае... Сапраўды — такой бяды, калі пасля заклiку «паэтам можаш ты не быць, але грамадзянінам быць абавязаны» паэт пераставаў быць паэтам, а станавіўся кан'юнктуршчыкам. Зрэшты, хоць грамадства, народ трацілі паэта, чалавек усё ж заставаўся жывым. А да чаго ж на практыцы рэальна прывялі вось гэтыя словы:

**Иди и гибни безупречно.**
**Умрешь не даром: дело прочно,**
**Когда под ним струится кровь...**

Ішлі ж і гінулі (ці на франтах з імем Сталіна на вуснах, ці ў берыеўскіх казематах). І «бездакорна» на крыві іншых спрабавалі будаваць лепшае будучае. Была вайна, вайна ўсё спісвала, спачатку — грамадзянская, потым — фінская, Вялікая Айчынная, афганская. Былі рэпрэсіі — даваенныя, пасляваенныя; якім жа тонам, якім здзекам гэта «умрешь не даром» гучала з рэпрадуктараў 1937 года ў Гулагах Калымы і Магадана над паміраючымі за калючымі дратамі паэтамі і непаэтамі?! «Дело прочно, когда под ним струится кровь...», — а гэта ці не чуецца сёння ўсім у самазадаволеным вымаўленні Іосіфа Вісарыёнавіча, які сапраўды сваю справу трывалай рабіў крывёй мільёнаў!..

Ніхто, канешне, ніколі не ведае цалкам таго, да чаго можа спрычыніцца, на слова паверыўшы калісьці. Кожны век мае і свае ілюзіі, і часта за ілюзіі плаціць чалавецтва жыццямі. Стоячы сёння на абароне чалавека і паэзіі, гэта ж ніяк і майму пакаленню не забыць, што ўсе мы са школы, з універсітэтаў, як загіпнатызаваныя, нібы малітву, паўтаралі: «Паэтам можаш ты не быць...», ды і пра кроў, што трываліць справу. Нам, беларусам, можа, і цяпер найцяжэй перадольваць тую памяць у сабе, бо мы выраслі шмат у чым з Ф. Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, а ўплыў на іх Някрасава быў вельмі шырокі. Ды і малады Янка Купала — сцяганосец рэвалюцыйна-сацыяльных ідэй, нацыянальнага Адраджэння, ён жа таксама найперш адчужваўся ад элітарнасці, ад самога слова «паэт» у вядомым вершы «Я — не паэта, о крый мяне, Божа!...», гэтак на свой манер згаджаючыся «паэтам... не быць». Той жа Купала, будучы ўжо аўтарам «Шляхам жыцця», у 1913 годзе вунь як ваяўніча адстойваў пазіцыі сацыяльнасці ў паэзіі, прыярытэтнасці грамадзянскіх матываў у ёй, праўда, у неакрэсленай будучыні бачачы на покуці ў ёй і паэзію красы...

Мне думаецца, што той неакрэслены час прыйшоў менавіта сёння, ён зрэалізаваўся гістарычна менавіта як наш посттаталітарны час. І ўжо даўно пара нашай беларускай паэзіі, як вернай вучаніцы, як паслушніцы, як перыферыі, не паўтараць крывёй умытыя догмы, зразумеўшы, што цераз тое ж самае паўтарэнне мы аказаліся адлучанымі, адчужанымі ад вельмі многага. І цяпер да страчанага трэба вяртацца.

Наша шчасце, што і Янка Купала, і Якуб Колас, і Максім Багдановіч зацвярджалі на пачатку стагоддзя нацыянальныя асновы нашай паэзіі, літаратуры, найперш арыентуючыся на А. Пушкіна. Максім Багдановіч — аўтар «Вянка» — увогуле вучань А. Фета. Фет быў першай любоўю нашага класіка. Што, з адчужэннем А. Фета, адчужалася так званымі рэвалюцыйнымі дэмакратамі ад паэзіі? Што закрывалася ад вачэй свету, як фігавым лістком, крытыкаю яго як «эстэта», як прадстаўніка «паэзіі для паэзіі»?

Закрываўся найперш мацерыковы абсяг фетаўскай паэзіі і фетаўскі маштаб разумення... Бо не толькі пейзаж «у маладзіковым ззянні» ці «роўны прабор» у валасах на галоўцы каханай ці паэзія імгненняў стомы, самотнасці, пакутлівых мар, дрыготкага трымцення ўражлівай душы складае змест вершаў А. Фета. Ягоная душа — у каардынатах быцця, сусвету, космасу, і як бы распята на скрыжалях дабра і зла. А. Фет — Паэт з вялікай літары, ён — жрэц паэзіі, яна для яго — храм, святое, тое існае, што трэба пачуць, але не з побыту, а з вышэйшай сферы быцця, з вышэйшай сферы маральнасці, дабрыні, прыгоства. Таму А. Фет — па-над дробязямі жыцця, па-над нізкімі яго закуткамі, не вартымі чалавека нікчэмнымі пачуццямі, падумкамі, паробкамі. Гэта не адпрэчванне сібарыта, арыстакрата ад жыцця, — гэта адпрэчванне ад яе вялікасці паэзіі ніцага, бруднага, гандлярскага, нізкапаклоннага. Так, неяк нават і адэкватна нашаму часу «ўваходжання ў рынак» гучаць радкі фетаўскага верша «Псеўдапаэту»:

(Працяг на стар. 12)

** У аснову артыкула пакладзены тэзы, падрыхтаваныя аўтарам да Міжнароднага кангрэса ў абарону дэмакратыі і культуры (Мінск, травень г. г., пад эгідай Беларускага ПЭН-цэнтра.) Гл. «ЛіМ» за 3, 10, 17, 06. 1994. — **Рэд.***

Беларуская проза з першых сваіх крокаў у значнай ступені таксама ўпісвалася ў эстэтыку дэкаданса. Для пацвярджэння гэтага, бадай, не трэба багата прыкладаў. Скажам, вядомае апавяданне «Вёска» Сяргея Палуяна, які, так рана адышоўшы з жыцця, прыгаломшыў усіх прадстаўнікоў беларускай нівы, неаспрэчны таму доказ: «Гніе вёска ў гразі і брудзе, а хоча яшчэ аджыць на сонцы. Здаецца, не аджыве, бо ўжо гнілым трупам вее ад яе. Смерць захавалася ў струхнелай каплічцы на могілках іківае на яе пальцам. Ад пальца бяжыць цень доўгай хмаркай па сінім небе. Вось набегла на сонца і саўсім закрыла яго. Відаць, трэба памерці вёсцы. Яшчэ больш счарнеўшай выглядае яна без сонечнага свету поруч з жаўцізной жыта ды зялянінай ярыны... Вочы вёскі ўжо загніліся, зацвілі плесняй. Міргае яна імі, нічога не бачачы. Але смерць адчувае. Баіцца яе. А ў старое сэрца сціішна прабіраецца слабая надзея. Вёска марыць і марамі хоча адагнаць ад сябе здань смерці... Дым ад ладану хвалямі плаваў над вёскай, абкурваў яе скананне. Смерць стаяла ў струхлеўшай каплічцы і ківала пальцам». Гэтак змрочна-мінорна стваралася безнадзейная карціна заняпаду, якая магла сімвалізаваць як канкрэтнае, так і агульнае — сусветны заняпад жыцця ў вачах мастакоў перыяду росквіту дэкадансу.

Ці не падобнае ж светаўспрыманне дэманструюць малюнкі прадстаўніка іншага пакалення Ядвігіна Ш. у лепшых яго апавяданнях «Гаротная», «Шчаслівая», «Зарабляюць» і інш., дзе напоўніцу адлюстраваліся трагізм, безвыходнасць, наканаванасць лёсу. Ці не ўсё тыя ж матывы ў ранняга Максіма Гарэцкага? Пытанне з вядомым ужо адказам, таму і не будзем абцяжарваць чытача адпаведнымі празаічнымі цытатамі, якія могуць дадаць толькі паасобныя штрыхі да агульнай змрочнай карціны, адлюстраванай у тагачаснай прозе.

Цяпер кінем вокам на некаторыя факты з гісторыі асэнсавання дэкадансу, якія паўплывалі на ўтварэнне пэўных стэрэатыпаў у айчынным літаратуразнаўстве. Першы пралетарскі пісьменнік у сваім хрэстаматыйным артыкуле «Поль Верлен і дэкадэнты» (1896), надрукаваным у правінцыйный «Самарскай газеце», безапеляцыйна вызначыў: «Дэкадэнты і дэкадэнства — з'ява шкодная, антыграмадская, — з'ява, з якой неабходна змагацца». Да гонару вешчуна рэвалюцыі, ён імкнуўся не быць галаслоўным, робячы закіды дэкадэнтам у іх «зняможанасці ад масы перажытых уражанняў», «хваравіта развітым уяўленні», «нейкай ашалеласці», «невылечнай меланхоліі», «прарочых трызненнях», «няясных намёках на нешта», «таямнічых пагрозах», «асаблівай, тужлівай, пахавальнай музыцы», «раздражняльнай носе тугі, вечнага незадаволенага суму», «містычным жаху перад вечнай загадкай існавання», імкненні «напужаць ці засмуціць людзей», кульце «вечнай гераіні дэкадэнскіх вершаў — смерці», нават у заражанасці «маніяй велічы». У адносна нядаўніх беларускіх літаратуразнаўчых дапаможніках гэты артыкул кваліфікаваўся як «сакрушальны ўдар па дэкадансу». У 20—30-я гг. у дачыненні да беларускіх літаратараў абвінавачванні тыпу а ля Горкі можна будзе пачуць з вуснаў наваяўленых пракурораў ад літаратуры, якія ўжо ў той час створаць, як марыў Аляксей Максімавіч, «для сябе жыццё, вартае людзей».

Увесну 1909 г. вершы М. Багдановіча, прысланыя ў «Нашу Ніву», прызнаюцца дэкадэнцкімі, і таму будуць спісаны ў архіў. Праз чатыры гады ў гэтай жа газеце друкуецца артыкул Лявона Гмырака «Яшчэ раз аб сплачванні доўгу», у якім катэгарычна сцвярджалася: «Дэкадэнцкія настроі, так прыкметныя ў пісьменствах іншых народаў, у нас пакуль што не праяўляюцца... Дэкадэншчына — гэта вынік раскладу і выраджэння пануючых класаў; народу... гэтая псіхалогія саўсем чужая. Мы і бачым, што нашы пісьменнікі далёка ад гэтага... Асобныя пісьменнікі-дэкадэнты з часам, калі больш пашырыцца наш рух, калі шырэй захопіць ён грамадзянства, можа, і явяцца, але перамагаючая большасць пісьменнікаў, усе лепшыя сілы будуць ісці, як і дагэтуль ішлі, шляхам жыцця». Нягледзячы на гэта, Гмырак у сваім апавяданні «Васілёва вяселле» малюе прэлюдыю і саму карціну вяселля-хаўтураў, на якім галоўны герой наважваецца скончыць жыццё самагубствам. Як гэта не ўкладаецца ў каноны творчага метаду, асновай якога лічыцца тыпізацыя.

Юпітэр савецкай літаратуры ў часы апафеозу таталітарызму ў артыкуле «Пра фармалізм» (1936), надрукаваным у сталічнай газеце «Правда», дазваляў сабе наступныя пасажы: «У літаратуры залішняя арнаменціка і дэталізацыя непазбежна вядуць да зацямнення сэнсу фактаў і вобразаў. Той, хто жадае пераканацца ў гэтым, няхай паспрабуе чытаць Эклезіяста, Шэкспіра, Пушкіна, Талстога, Флабэра адначасова з Марсэлем Прустам, Джойсам, Дос-Пасасам і рознымі Хэмінгуэямі. Фармалізм як «манера», як «літаратурны прыём» часцей за ўсё служыць для прыкрыцця пустаты ці галечы душы». Зразумела, што быкам савецкага літаратуразнаўства, у тым ліку і беларускім, пасля падобных дырэктыўных установак заставалася толькі шчыраваць у выяўленні і выкрыцці праяў фармалізму.

Калі ж паспрабаваць адкінуць навязаныя схемы і шаблоны, пазбыцца комплексу непаўнавартаснасці роднай літаратуры і пастарацца зірнуць на яе як на з'яву выключна нацыянальна-спецыфічную, то можна прыйсці да высновы, што ў айчынным прыгожым пісьменстве адлюстраваліся не проста дэкадэнцкія матывы, а існавала выразная плынь, якая грунтавалася на эстэтыцы дэкадансу. Прычым беларускі дэкаданс меў свае адметныя рысы, звязаныя ў першую чаргу з яго сацыяльнай заангажаванасцю.

Магчымыя апаненты могуць папракнуць мяне за тэндэнцыйнасць і стаpанны адбор ілюстрацыйнага матэрыялу, але, здаецца, кітайскі мур сённяшняй выключнай тэндэнцыйнасці немагчыма праламаць, не ўжыўшы з намерам тыя ж сродкі. Абымшэлы валун літаратуразнаўчай дактрыны маналітнага рэалізму даўно пара замяніць нейкай іншай «рэаліяй» з больш складанай архітэктонікай.

**Ігар ЗАПРУДСКІ**

# АДЗІН СУПРАЦЬ... УСІХ

Супраць усіх, — гэта, бадай, і занадта, але што супраць многіх — сумнявацца не даводзіцца. Прынамсі, у кнізе Анатоля Зэкава «Дуэль» змешчаны літаратурныя пародыі ажно на 67 паэтаў. А калі ўлічыць, што кожны, на каго скіраваны гумарыстычна-сатырычныя стрэлы, чалавек з характарам, цану сабе ведае, таму і пакрыўдзіцца можа, дык паядынак, не сказаць, каб адбываўся нароўных.

Але тое, што ў звычайным жыцці немагчыма, да месца ў літаратуры. Бо тут спрацоўвае найчасцей не колькасць, а якасць. Інакш кажучы, талент здатны рабіць сапраўдныя цуды. А паколькі А. Зэкаў валодае даволі рэдкім у літаратуры талентам парадыста, дык ён годна выходзіць з самых складаных сітуацый. Сітуацыі ж гэтыя складаныя тым, што неабходна знайсці ў творчасці любога з паэтаў, радкі, за якія можна «ўчапіцца», і пажартаваць, паіранізаваць, а дзе і пакрытыкаваць.

А што А. Зэкаў дасканала валодае гэтымі якасцямі, пераконваешся, ці не з першых пародый. Скажам, у паэта Уладзіміра Верамейчыка ёсць такія радкі:

**Любімая, спіце... А можа,**
**нарэшце сасніцца,**
**Што вы цалавалі мяне...**

Яны і далі падставы А. Зэкаву напісаць пародыю «А можа, сасніцца?..» Што ж можа сасніцца паэту? Ды самае рознае: пра тое і пародыя, але дамінанта яе, як і трэба чакаць, у заключнай страфе:

**Усё няхай сніцца, пакуль вам і спіцца.**
**Хіба толькі сэрца трымціць:**
**А што, калі раптам, крый божа, сасніцца,**
**Што мне аліменты плаціць?**

Парадыст (безумоўна, калі ён сапраўдны парадыст) прыкмячае неабавязкова слабыя радкі, няўдалыя вобразы. Аб'ектам пародыі можа станавіцца і сапраўдная паэзія. Напрыклад, у тым разе, калі аўтар пэўнага твора, клапоцячыся аб напоўненасці думкі, не заўсёды дбае аб яе адпаведным увасабленні. Так сталася і ў адным з вершаў Уладзіміра Някляева: «Калі ваўкі збіраюцца ў зграі і глуха выюць, давяцца тугой, я вар'яцець паціху пачынаю, нібыта пазнаю, прыпамінаю у іх выцці знаёмы голас мой... Мне жудасна. Я чую, як звярэю».

Няцяжка здагадацца, што паэт меў на ўвазе. Канечне ж, складанасць узаемаадносін чалавека і прыроды, эвалюцыйнасць жыцця. Але ж пародыя на гэтыя радкі, як кажуць, сама просіцца. Так і з'явілася яна ў А. Зэкава — «Ваўчыны канцэрт»:

**Калі ваўкі за хатай выюць,**
**Тады звярэючы зусім,**
**Кідаю справы я любыя**
**І ціха падвываю ім.**

**Суседзяў аж тады калоціць,**
**Калі з ваўкамі выю.**
**Усё ж**
**У іх, вядома, лепш выходзіць.**
**А я не воўк,**
**Таму і горш.**

У полі зроку А. Зэкава самыя розныя паэты. Не абыходзіць ён увагай Рыгора Барадуліна і Раісу Баравікову. Парадыруе Сяргея Панізніка і Уладзіміра Скарынкіна. Усміхаецца з Сяргея Законнікава і Алеся Пісьмянкова. «Дапамагае» разабрацца што і да чаго Паўлу Шрубу і Віктару Шніпу. Нагадвае, што чытае іх творы Віктару Шымуку, Уладзіміру Паўлаву, Нэлі Тулупавай. Раману Тармолу, Петрусю Макалю, Уладзіміру Мазго, Уладзіміру Дзюбе, Зінаідзе Дудзюк і іншым. Як правіла, гэта незласлівы гумар. Дый — не будзем забываць — свайго роду і рэклама! Бадай, чытач, які прачытае пародыю, захоча пазнаёміцца і з творамі таго, каго выбраў парадыст.

Акрамя пародый, у кніжку ўвайшлі і байкі. Таксама не скажаш, што ў нашай літаратуры гэты жанр у асаблівай пашане. Адны лічаць яго састарэлым: маўляў, у «эпоху галоснасці можна пісаць пра ўсё проста, а не намёкамі. Другія і ўзяліся за яго, ды не вельмі атрымліваецца. А. Зэкаў піша і даказвае тым, што байка па-ранейшаму можа служыць у літаратуры (і ў жыцці таксама!) добрую службу. Бо не пераваліся яшчэ тыя, каго трэба выкрываць. Няма дэфіцыту хамства, абыякавасці, прыстасаванства, хцівасці, хітрасці, подласці, несумленнасці... Толькі паспявай байкапісец пісаць!

Што ні твор А. Зэкава, дык узяты, як кажуць, з натуры. Для прыкладу байка «Сабачы брэх». Знаёмая сітуацыя, ці не праўда? — «Калі з пасады знялі Ваўкадава і славу Яго, бы ветрам, здзьмула, уся сабачая дзяржава лягчэй умомант уздыхнула». Тут «раптоўна шаўкі асмялелі». А вывад такі:

**Мараль**
**Прыміце на павер,**
**Бо з ёй, мараллю, гора:**
**Сабакі брэшуць на таго цяпер,**
**Каму падбрэхвалі**
**Учора.**

«Дуэль» А. Зэкава выйшла не ў дзяржаўным выдавецтве. Зборнік з'явіўся дзякуючы прыватнаму выдаўцу Міхасю Расольку. І ад здачы рукапісу ў набор да выхаду кнігі прайшло ўсяго нейкія тры тыдні. Аператыўнасць, якой трэба пазайздросціць. А можа, гэта ўвага і павага да таленту?! Прачытайце «Дуэль» А. Зэкава. Не пашкадуеце. А набыць зборнік можна і ў кнігарнях, і ў газетных кіёсках.

**З. В.**

яны пра нарысістку і крытыка, жанчыну і маці, чалавека і асобу творцы, які ўвайшоў у нацыянальную літаратуру пад імем Веры ПАЛТАРАН.

Пэўнае ўяўленне аб гэтым даюць ужо самыя назвы ўспамінаў. Да прыкладу: «Залатая кветка Палесся» (Наталля Гракові̇ч), «Сапраўдная інтэлігентка» (Мікола Аўрамчык), «Промень чулай душы» (Алесь Асіпенка), «Адна з нямногіх» (Уладзімір Дамашэвіч), «Дар з крыніцы вады жывой...» (Уладзімір Конан), «Сустрэча з ёю — падарунак лёсу» (Зінаіда Мажэйка), «Талент чалавечае дабрыні» (Генадзь Шупенька), «Яна любіла святло» (Мікола Мятліцкі), «Талент» (Святлана Марчанка). Няма сумнення, што сам пералік іменаў іх аўтараў шмат гаворыць дасведчанаму чытачу.

Вось якія рысы характару і якасці асобы В. Палтаран вылучылі на першы план яе паплечнікі:

**М. Барсток:** «У Веры была жывая зацікаўленасць у рабоце, любоў да роднага слова... Была ў яе добрая назіральнасць, цікавасць да розных драбніц жыцця, уменне слухаць і разумець людзей, што неабходна для літаратара-нарысіста».

**Я. Брыль:** «Увага да людзей, душэўная добразычлівасць, светлая шчырасць добра дапамагаюць ёй і ў творчасці, — ад гэтага яна выразна бачыць, тонка чуе, глыбока асэнсоўвае заўважанае ў народным жыцці, ніколі не трацячы сувязі з галоўным».

**М. Мятліцкі:** «Вера Сямёнаўна была загружана работай няшчадна. Яна, здаецца, сама шукала яе. Вопытнейшы стыліст. Уедлівы рэдактар».

**С. Марчанка:** «Вера Палтаран — рэдкі талент, не толькі ў мастацтве, а ў шырокім сэнсе слова. Шчыры чалавек, мужная, праўдзівая дзяячка, яна займалася эстэтычным аналізам жыццёвых і літаратурных з'яў, вырашала іх з публіцыстычным ухілам».

**У. Калеснік:** «У маёй памяці Вера Палтаран жыве лірычным вобразам беларусачкі, беларускай інтэлігенткі».

Не, у ніводных з гэтых словаў няма экзальтацыі, нацяжкі ці ідэалізацыі. Таму што кожнае сказана на той хвалі ўзрушанасці і шчырасці, на якія, на жаль, большасць з нас не здольна ці то з-за залішняй сарамлівасці, ці то з-за падманлівай перакананасці, што жыццё — яно вечнае, а таму для таго слова яшчэ не прыйшла пара, яшчэ не надарылася належнага кшталту нагода.

Але ў быцця свая наканаванасць. Дык і не дзіўна, што так знянацку б'юць нам па сэрцах весткі аб страце родных і самых блізкіх сяброў. Тады і спахопліваемся. Апраўдваючыся выратавальным, што лепш пазней, чым ніколі...

«Калі чалавеку трэба куды-небудзь дайсці, ён ідзе адной, а не сямю дарогамі, калі ён хоча нешта зрабіць у жыцці — ён павінен рабіць адну справу... Трэба адказваць за адну справу — тую, якую ты робіш у жыцці, дзеля якой і жывеш на свеце, — адказваць па ўсёй строгасці, усім сваім сумленнем... Толькі тады ва ўсім і ўсюды будзе парадак».

Гэтыя радкі з нарыса «Дзівасіл» нібыта наказ Веры Сямёнаўны няхай з недалёкай, але ўжо даўніны нам, сучаснікам і нашчадкам...

На падобнай хвалі суладнасці думак і пачуцця прачыталася мной і кніга «Не пакідай нас, Вера...» Таму пастаўлю яе на паліцу між тых, да якіх найчасцей сёння звяртаюся, па якіх звяраю арыенціры свайго лёсу.

**Алесь ЛІСІЦКІ**

*г. Жыткавічы*

***Не стала Уладзіславы Юльянаўны Раманоўскай... Пайшоў на вечны спачын чалавек шчодрай душы і добрага сэрца. Пляменніца Янкі Купалы, У. Раманоўская вельмі шмат рабіла для прапаганды ўсяго, што было звязана з жыццём і творчасцю народнага песняра, часта выступала ў друку, доўгі час працавала ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Светлы воблік Уладзіславы Юльянаўны назаўсёды застанецца ў памяці ўсіх, хто яе ведаў.***

Рыгор БАРАДУЛІН

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ УЛАДЗІСЛАВЫ ЮЛЬЯНАЎНЫ РАМАНОЎСКАЙ

**Кнігаўка з Купалавых лугоў,**
**Застаецца нам тваё старэнне.**
**Ты ляціш да вечных берагоў,**
**Дзядзька Янка**
**Там цябе сустрэне.**

**Ты святла прасіла ў кут святы,**
**І на колькі крыл тваіх хапала**
**Засланяла ты ад чарнаты**
**Сцежкі,**
**Дзе з думой хадзіў Купала.**

**Ты бяду вяла за небасхіл.**
**Ад цябе бяду не адвялі мы.**
**Застанецца**
**След ад шчырых крыл**
**У нябёсах стомленых Радзімы.**

# ГЭТА ПЛАЧ ДУШЫ

«Аніколі к табе не вярнуся, дарагая матуля-зямля...», прачытаў гэтыя радкі верша Анатоля Бярозкі, змешчанага ў газеце «Літаратура і мастацтва» 15 ліпеня 1994 г., N 28 і неяк самі сабой нагарнуліся слёзы, а з імі і ўспаміны пра маю родную вёсачку Бабаедава, што на Сенненшчыне. Там мае карані, там пахаваны продкі. І ніяк не пазбыцца мне тугі за страчаны, змарнаваны час, за тое, што вымушаны быў шукаць шчасце ў іншых краях...

Прачытаў зноў верш-эпітафію і адчуў горыч матчыных слёз. Без якіх яна не магла ўспамінаць свайго брата, салдата, прапаўшага без вестак вайною дзесь пад Ленінградам.

«Не кажы пра мяне, што загінуў дарма, пустацветам у далёкай, нянашай краіне...» Нічога падобнага раней чытаць не даводзілася. Божухна, гэта споведзь, плач душы. Так можа напісаць толькі чалавек з вельмі збалелым па Радзіме сэрцам, сапраўдны яе сын.

Дзякую за падборку вершаў Анатолю Беламу і за адкрыццё незнаёмага мне і стаўшага зараз такім блізкім і родным Мацвея Рэпкава-Смаршчка (Анатоля Бярозкі). Такая публікацыя — гэта і ёсць сапраўдны ўрок патрыятычнага выхавання. Гэта ўрок любові да сваёй Бацькаўшчыны.

**Мікола ЛАВІЦКІ**

# НАЙПЕРШАЯ ЎВАГА — МОЛАДЗІ

і ў восьмым нумары часопіса «Першацвет». З вершамі выступаюць А. Ліпень, А. Мігаль, А. Дылюк, А. Горбач, В. Чупрына, А. Данільчык, А. Цімохіна, У. Гарачка, А. Пуставойценка, з апавяданнямі, абразкамі, лірычнымі замалёўкамі — Ж. Іваноўская, С. Казарына, А. Кузьняцова, К. Сухоцкі, В. Іванова, У. Цішуроў.

У «Гасцёўні» — апавяданне «Па кніжку» М. Капыловіча і казкі для дзяцей А. Бадака.

Пра сучаснасць, свабоду і літаратурную творчасць разважаюць у гутарцы А. Дуброўскі і П. Макаль.

Мастачка Л. Засімовіч заўчасна пайшла з жыцця... Яна пісала не толькі карціны, але і вершы. Асобныя з гэтых твораў прадстаўлены ў раздзеле «Спадчына» (прадмова «Збяднее мора без кроплі...» Н. Вусавай.

Над творчасцю аднаго з найцікавейшых беларускіх паэтаў задумваецца М. Віч — «Метафара Уладзіміра Хадыкі». М. Баравік рэцэнзуе кнігу паэзіі А. Жыгунова «Мая Тройца» — «У боскай Тройцы». А. Ветах дзеліцца ўражаннямі ад зборніка лірыкі М. Панковай «Нязбытнаю ласкаю» — «Я — з любві, з той трывожнай...»

І. Чарота знаёміць з творчасцю беларускага пісьменніка Міхала Запольскага, імя якога, на жаль, не шмат гаворыць сучаснаму чытачу, — «Хоць і запознена...» Змешчана некалькі вершаў і празаічных твораў М. Запольскага.

Гэтым разам крыху нечаканым атрымаўся гумарыстычна-сатырычны раздзел «Жароўня». М. Клімовіч («Думкі ў ёлачку») выбраў некаторыя мясціны з твораў дасланых у рэдакцыю: якія без усмешкі нельга ўспрымаць.

# ПАДАРУНАК ДА ЮБІЛЕЮ

Напэўна, толькі Юры Гумянюк з усіх паэтаў Беларусі да дваццаціпяцігадовага ўзросту паспеў выдаць два паэтычныя зборнікі. Другая кніга Юры «Твар Тутанхамона» выйшла якраз напярэдадні дня нараджэння гарадзенскага «тэвээлаўца», які ён адзначае ў верасні. У кнігу ўвашлі аднайменнае эсэ і тры нізкі вершаў «Новы Бабілён», «Фанэра над Парыжам» і «Тэксты пірамідаў». Сваім новым зборнікам Юры Гумянюк чарговы раз засведчыў, што ён з'яўляецца найбольш адметным прадстаўніком беларускага постмадэрнізму.

Кніга выйшла ў серыі «Паэзія новай генэрацыі», дзякуючы руплівасці выдавецкай суполкі «Полацкае ляда».

А. К.

# ПАЭТЫЧНАМУ ШЭДЭЎРУ — 150 ГАДОЎ

Маецца на ўвазе сусветна вядомы верш Уладзіслава Сыракомлі «Паштальён», напісаны ў 1844 годзе ў фальварку Залуча. У жыццё ці не кожнага з нас ён увайшоў як папулярная руская народная песня «Когда я на почте служил ямщиком...» (перапрацоўка пераклада на рускую мову «Ямщик», зробленага М. Трэфалевым). Усяго ж на рускую мову гэты твор У. Сыракомлі, як устанавіў У. Мархель, перакладаўся сем разоў. Акрамя Л. Трэфалева яго пераўвасаблялі М. Міхайлоўскі, Л. Пальмін, І. Талмачоў, Д. Бохан, С. (аўтар, які схаваў сваё сапраўднае прозвішча), А. Карынфскі.

На беларускую мову гэты верш пераклалі Я. Лучына («Ямшчык»), М. Лужанін («Паштальён»), І. Чыгрын («Паштар»). Па-ўкраінску «Паштальён» У. Сыракомлі загучаў дзякуючы М. Смарыцкаму.

М. МАЛІНОЎСКІ

# ТАЛЕНТ З ГЛЫБІНКІ

Пётр Зяляўскі жыве на Браслаўшчыне. Тамашняя зямля, як і іншыя куточкі Бацькаўшчыны, багатая на таленты. Не абдзяліў ім Бог і П. Зяляўскага. Пад умелымі рукамі народнага майстра ажывае дрэва... Разьбярства стала для П. Зяляўскага сапраўдным прызваннем. А наколькі плённа і таленавіта ён працуе, можна даведацца з буклета «Разьбяр з вёскі Слабодка», які выпушчаны выдавецтвам «Полымя». Аўтар тэксту — К. Шыдлоўскі. У «Полымі» пастараліся, каб гэтае выданне прыйшло да чытача як мага хутчэй: буклет запланаваны на наступны, 1995 год, але ўжо цяпер з'явіўся ў кнігарнях.

Паэзія

Сяргей ПАНІЗНІК



# З НОВАЙ КНІГІ

## ІДУЦЬ ДАЖДЖЫ...

Ідуць — наканаваныя — дажджы.
Табе і мне нідзе, відаць, не дзецца.
Свішчы, пустэча ночы, не свішчы, —
рэформамі не прыйдзецца сагрэцца.

Адзін ратунак, што планета — шар.
І круціцца той шар, і сцежкі сушыць...
Ёсць і яшчэ ратунак: гэта жар —
агонь крыві, які ў сэрцы кружыць.

Агонь крыві цябе, мяне бярог,
калі усе спыніліся расстрэлы,
калі мяне ў круты згіналі рог,
і я пад сцягам «шчасліваў», упрэлы.

Той жар і збавіў нас ад цемнаты
(ды не ад царскай жа, хрэстаматыйнай:
яе назвалі «ленінскай», «партыйнай»...),
і вось нарэшце выйшлі за драты.

Ідуць дажджы
чарнобыльскім сумежкам.
І, можа, не расступіцца зямля —
з нітратным ці другім якім дамешкам...
Ідуць дажджы... І я іду здаля.

Няхай сабе дажджамі атулюся.
Але хачу, каб нехта мог пачуць,
калі я за Айчыну памалюся,
і за цябе... І за сябе чуць-чуць, —
абы нам скінуць адзічэння злосць.
Мы абнадзеіліся: розум ёсць.
А нелюдзі краіну не засеяць!

Ідуць дажджы. І нешта сеюць, сеюць...

## ЗАСЦЯРОГА

Рабоў не шкадавалі фараоны.
Не шкадавалі мужыкоў цары.
У гліну утыкаліся патроны
у час расстрэлаў сталінскай пары.

А потым Проня паглынала душы.
Ля Рыленкаў — дзесяткі тысяч сноў.
Змяніўся час? Чарнобыльскія грушы
смяротна зацвітаюць зноў і зноў.

Жыццё — нішто? А ў сябе спытаю:
«Вунь вораг мой —
маё сумленне. Спіць?..»
Старонкі дзён атрутныя гартаю.
Шкадую я уласнай долі ніць?

Хто абароніць гены — фараоны?
Хто пашкадуе род — функцыянер?
Для абароны ёсць карэнні, кроны...
І я! І я! Павер, Зямля, павер.

## НЕ АПОШНЯЯ

Разабралі вайны партызанскае голлейка
на сустрэчы са школьнікамі;
разабралі — узнёслае і прыземленае —
на вітрыны музейныя.
Разабралі ружовую, не крыжовую,
а поўную хвасці.
Удачы пакралі, засталіся напасці.
Шкуматочкі памяці
па людзях раскіданы
хваляю узрыўною —
усё, што завецца
самым страшным няшчасцем — вайною.
Варожая і Айчынная — уся! —
немагчымая:
яна не пісьмовая — вусная,
не чытальная яна, бо гнюсная,
бязвінняй крывёю пошлая.
І самае горкае — не апошняя.

## ДАНІНА

Былі застойныя гады.
Жылі крыклівыя гады:
з іх кожны вымпел залаты
выносіў на парады.

Дэманстраваў прыгожа гад
лісліва-ціхі нораў,
абы рабы яго брыгад
не выпаўзалі з нораў.

Слізгучай хеўры шапаццё
паела ўсе пакляды,
што не пазнаць: ішло жыццё
Савецкае ўлады?
А хто зграбаў з маіх патоў
сабе у цэбры льготу?

Даніну я плаціць гатоў,
але свайму народу, —
яго дзянніцы над чалом
абуджанага сонца,
і Конніку, які з мячом
маім стаў абаронцам.

## ДОЎГІ ДЗЕНЬ

Быў самы доўгі дзень.
Кароткая фіранка
прымала на пастой вячэрнюю зару.

Быў самы доўгі дзень.
Свяціўся ён ад ранку
праменнасцю густой ушыркі і ўгару.

Быў самы доўгі дзень.
І навісалі цені
чароўнаю дугой на словаў перазвон.
Быў самы доўгі дзень.
Самлелі летуценні,
а келіх са смугой скаціўся пад адхон.

Быў самы доўгі дзень.
І чэрвеня арэлі
алгушкалі красу узнёслае вясны.
Быў самы доўгі дзень,
які з табой сустрэлі.
Яго я панясу у ласкавыя сны.

Быў самы доўгі дзень
кароткае сустрэчы
для абнадзейных слоў, якія мы знайшлі.
Быў самы доўгі дзень.
Ён быў нібыта вечнасць...
А вечная любоў ёсць толькі на Зямлі.

## МЫ

«Я ў дзень смерці ягонай не плакаў!»
«А я Сталіна ганіў тамы»...
Не Іосіф быў аўтар Гулагаў, —
Безназоўна-пакорныя Мы.

Крыжавалі рэспубліку краты,
і глуміліся служкі турмы.
Хто яны — і ахвяры, і каты?
Безназоўна-пачварныя Мы.

Косці вояў яшчэ не прыбраны:
чуе Волхаў узрыжка сурмы.
А хто множыў афганскія раны?
Безназоўна-магутныя Мы.

Затаіўся Іосіф з братамі.
Раб у кожнай крывінцы не здох.
Ты і я — гэта Мы. А над намі
Розум лучнасці — нацыі Бог.

## ВЫРАК

Слова — як прывабны хутарок.
А выслоўе — вёска. Крок у крок
па сялібах літары блукаюць:
нашы вусны літары шукаюць.
Прымаўка — мястэчка над ракой,
з хрэсьбінамі, рупнай талакой...
Мудрае, калі яно радзілася?
Слова мне антонаўкай скацілася.
Мова, мова... Ты мая мяжа?
Вартаўнік дзяржавы ці крыжа?
Вечная скрыжальная граніца?
Ды не ўсім, гаротненькая, сніцца:
пасцінаілі столькі ўжо галоў
за вянец святых крывіцкіх слоў.
Цяжка сёння мове ўкраініца.
Нашыя дзяржаўныя даклады
сціплай беларускасці не рады.
Як праз зубы цэдзіцца дазвол
і на Трон для мовы, і на Стол.
Чуць трапечацца, нібы скалелы,
сцяг Пагоні бел-чырвона-белы...

Дэбют

# У ДОБРЫ ШЛЯХ!

*Алег Кацапаў — студэнт філфака БДУ імя Ф.Скарыны. Нарадзіўся ён у Гомелі ў 1969 годзе, дзе скончыў школу, пасля ПТВ-152 электронікі. Служыў у арміі, год працаваў слесарам на заводзе.*

*Вершы пачаў пісаць яшчэ ў сёмым класе. А зараз іх назбіралася столькі, што аўтару пара пазнаёміць з імі не толькі блізкіх сяброў, але і чытачоў-аматараў паэтычнага слова.*

*У Алега выпрацоўваецца і свой погляд на свет, і свой уласны почырк. Хочацца пажадаць маладому аўтару трывалага плёну, калі глыбіня думкі яднаецца з добрай празрыстасцю, яснасцю выказвання і тады — узнікае гармонія, да якой імкнецца кожны, хто спрабуе сябе ў творчасці. У добры шлях!*

**Віктар ЯРАЦ**

Алег КАЦАПАЎ



# «МЫ ВЕРЫМ ТОЛЬКІ Ў СЯБЕ»

●

Я песні каханню спяваць адмаўляюся —
Не трэба вечнаму нявечнае.

●

След.
След.
Яшчэ і яшчэ
Многа слядоў.
Сцяжынка. —
Вельмі лёгка ісці
...Трава загінула.

●

Гляджу на зямлю —
Вочы мае напаўняюцца
слязьмі.
Які невыносны боль.
Гляджу на неба —
Хоць нейкая радасць:
там мая неўміручасць.

●

Мы ня верым у Бога.
Бог жыў і жыве.
Мы не верым у Сонца.
Яно свеціць.
Мы не верым у зоркі.
Яны смяюцца.
Мы верым толькі ў сябе,
толькі ў сябе.
І з гэтай верай паміраем.

●

У народзе ёсць прыкмета, што калі ў небе з'яўляецца знічка, то трэба загадваць жаданне.
Колькі знічак!
Колькі жаданняў!
Колькі імкненняў!
Колькі хочацца мець і спасцігнуць!
Усіх скарбаў зямных і нябесных не хопіць, каб задаволіць столькі жаданняў...
А на магілках не перастае гучаць вялікі шэдэўр Шапэна.

●

Галерны раб.
Як хмара медная,
ён хмуры, нерухомы.
Ёсць сілы скінуць ланцугі,
ёсць сілы збегчы,уцячы з няволі.
Крывавы слуп.
Агнём ударыць па спіне,
па галаве,
па твары —
пачнецца жвавы рух
распятых рук,
артэрый чорных,
белай пены,
маўклівых
сініх губ.

●

Шэрасць і дождж,
промні і снег
кожны дзень,
праз дзень,
праз месяцы і тыдні
сустракаюцца
з маім акном —
відаць, прыродзе
не хапае розуму
пераступіць такую
аднастайнасць.

Проза

# ДВА АПАВЯДАННІ

Барыс САЧАНКА



## ДЗІВОСЫ

Я вельмі хацеў піць. І, каб наталіць смагу, шукаў вады. А яе не было — каторы месяц не ішлі дажджы, усюды стаяла страшэнная суш: павысыхалі не толькі брады, балоты, але і рачулкі. Вяртацца ў вёску? Але ж гэта — кіламетраў дзесяць-дванаццаць. Па лесе, гарачыні...

І я надумаў знайсці ваду бліжэй, напіцца яе ўволю. Вось толькі дзе была яна — не ведаў. На ўсякі выпадак падаўся ў алёс — там, як помню я, заўсёды было мокра, працякала рачулка. Вясною і ўвосень туды наогул было не ўлезці — гразь, багна. Не замярзала і зімою — прысыпле карчы і купіны снегам, прышэрхне ў мароз — так і застаецца да цяпла. Дзікія звяры і то абыходзілі гэтае месца. Гняздзіліся хіба птушкі — для іх гэта быў сапраўдны рай.

«Няўжо і ў альсе павысыхала, няма вады? — не мог даць сабе я веры. — Не можа такога быць».

Чарналессе — дубы, клёны, грабняк, арэшнік — я мінуў даволі хутка, хоць давялося і абыходзіць вывернутыя з карэннямі старадрэвіны, непралаз і кусты. Урэшце, выбіўся на алешнік — стары, месцамі зусім сухі, з аблезлай карою, пакарабачанымі, як верчык, стваламі. Унізе зелянеў малiннік, парэчкі і смародзіны. І там, і тут чырванелі, чарнелі ягады, і я хвілін колькі іх рваў, кідаў у рот. Але яны не глыталіся, перасядалі. Трэба было прамачыць горла, выпіць вады. Хоць кроплю, глыток...

І я, патаптаўшыся ў алешніку, пакіраваўся ў глыб альса — туды, дзе была заглуш, працякала рачулка. Убіўся ў густы — не прадрацца — лазняк, потым пачалося куп'істае, заросшае шылегам, асакою і рагазою балота. Ногі мае праваліваліся, нібы ў прорву, у гразь, багну. Але я, хапаючыся за купіны, вылазіў на сухое, зноў ішоў.

Вады нідзе не было. Нават у ямінах — чортавых воках, што чарнелі тут і там. Што было рабіць? Вяртацца назад?.. Не!

І я, напружваючы апошнія сілы, ішоў і ішоў, браўся далей і далей.

Урэшце, я выбіўся зноў на алешнік. Спярша малады, зарослы малiннікам, потым чысты, стары.

«Што гэта? Няўжо я апынуўся з другога канца альса? Але ж рачулка? Дзе яна? Мінуў я яе?..»

Так, неўзабаве пераканаўся, што я сапраўды з другога канца альса, дзе расло, перапляталася чарналессе, а за ім ішоў, цягнуўся на многія кіламетры, шчыры бор...

«Мусіць, рачулка высахла... І я мінуў яе, нават не заўважыўшы таго...»

Вярнуўся назад, усё яшчэ не верачы, каб у альсе не было вады.

«Не можа такога быць... Яна ёсць, толькі трэба пашукаць...»

Зноў быў алешнік, лазняк, зноў былі чорныя лапіны гразі і багны, купіны асакі, шылегу і рагазы... Зноў я грузнуў, праваліваўся, быццам на той свет, не знаходзячы пад нагамі апоры, зноў вылазіў, выбаўляўся на сухое...

Вады не было...

...І ўсё ж ваду я знайшоў. Пад старым, вывернутым з карэннямі вязам. Яна блішчэла, быццам срэбра, і ціха струменілася, пералівалася — няйнакш, там быў ручаёк, крыніца...

І я прыпаў да карэнняў, каб яе дастаць, зачэрпнуць рукою. І адразу ж адхіснуўся. Здалося мне — я дакрануўся да нечага забароненага, таго, да чаго дакранацца ніяк нельга. Мяне кінула ў пот. І ў вачах паплыло, завярцелася, закружылася — дрэвы, зялёнае голле, блакітнае неба... І ўбачыў я раптам глыбока-глыбока пад сабою чорную прорву, а там... Людзей... Голых, худых... Яны, сцяўшыся ад холаду, стаялі ў чорным прадонні, умольнымі вачыма глядзелі на мяне, уверх, дзе было цяпло, сонца, дзе быў я і чагосьці прасілі — ці не каб падаў руку, выцягнуў іх з прадоння...

Колькі ўсё гэта доўжылася? Можа, хвіліна, можа, больш. Але смага ў мяне прапала — дзе і падзелася. Я падняўся на ногі, і, быццам п'яны, не помнячы сябе, пайшоў ад выварацня, пакіраваўся на лес... І адчуванне было, быццам я зазірнуў туды, куды зазіраць было ніяк нельга, быццам я сам пабываў там, у прорве, на тым свеце. І неяк вырваўся на волю, іду вось па зямлі, дзе ўсё так хораша — падзімае, абдае ветрык, спяваюць птушкі, свеціць сонца, зелянее лес, сінее неба... І нічога ані мне не хочацца, нават піць, усяго хапае, усё ёсць, мне так добра, як не было яшчэ ніколі ў жыцці...

•

Я збіраў ягады. Чарніцы. Набраў поўнае, як вока, вядро. І, вядома ж, стаміўся, аж, як у нас кажуць, сасмяг. Балела, ныла спіна. Каб хоць трохі адпачыць, я наблізіўся да карыстай сасны і, выпрастаўшыся, прыхінуўся спіною да камля. Ён быў няроўны, халаднаваты і прыемна студзіў спіну, як бы адцягваў боль. Адкінуў ад стомы назад галаву, паглядзеў увысь, на сасну — старую, рослую — толькі венчык галінак зелянеў у вільчыку. Галінкі, ды і сама вяршыня пагойдваліся ад ветру, што, мусіць жа, дзьмуў там. А яшчэ вышэй — блакітнела неба, вабіла, цягнула да сябе. Я заплюшчыў вочы.

І здарыўся цуд — душа мая быццам пакінула цела і памкнула туды, увысь, у неба. І вось дзіва — частка мяне як бы засталася пад сасною, а другая — паднялася, паляцела. Нават больш — зверху, з вышыні, я бачыў сябе пад сасною. Стомленага, прысланенага спіною да камля. Побач стаяла вядро з чарніцамі...

Потым, кружачыся над той сасною, пад якою быў спыніўся, я незаўважна як бы аддаліўшыся ад яе, паляцеў над лесам. Нязвыкла дзіўна, цікава было мне глядзець зверху на вяршыні сосняў, бяроз, дубоў, асін... Былі хвіліны, што хацелася ўпасці на іх, як на пасцель. І ляжаць, адпачываць. Але я пераадолеў сваё жаданне, паплыў далей... Пачалося поле, засеянае жытам, — яно выкінула ўжо колас, палавела і пад павевамі ветру выгіналася, па ім прабягалі хваля за хваляй... За жытам ішлі загоны бульбы, доўгія, акуратна абараныя, якія межавалі з людскімі агародамі, садамі, хлявамі, хатамі... І я плыў, кружыў над імі, разглядаючы ўсё, што трапляла на вочы. На хвіліну-другую затрымаўся над сваёю хатаю — я пазнаў яе зверху, бо на комін было накінута старое ржавае вядро, — ды і сад, агарод былі мне знаёмыя, я ж абходзіў іх, абтупаў мо сто разоў — і капаў поле, і палоў грады, ды і ўсё астатняе, што трэба рабіў...

Ад вёскі я паплыў да сенажаці, да тых дубоў, што стаялі там — магутных, стогадовых, — потым павярнуў да рэчкі... Там, ужо над рэчкаю, я ўбачыў хмары, што клубіліся ў вышыні. І мне захацелася паглядзець, што ўяўляюць з сябе хмары — ніколі ж гэтага не бачыў, не ведаў, што гэта такое... Хвіліна — і я ўжо блытаўся, усё адно што ў космах ільну-даўгунцу, у хмарах, цёмных, вільготных. Але тое было нядоўга — раптам вынырнуў з іх, падняўся яшчэ вышэй, дзе ўжо не было ніякіх хмар, а было голае, чыстае неба, сонца, месяц. І зоры... Удзень зоры? Гэта было нова, нязвыкла...

Паглядзеў уніз — і здалося: пада мною не хмары, а пуховая пасцель... Памкнуў назад — пасцелі ніякай не было, былі толькі хмары. Зноў стала цёмна, сыра... Але толькі на хвіліну. Я вынырнуў з хмар, зноў паплыў над сенажаццю, рэчкай, дубамі...

Колькі я так лятаў, кружыў над наваколлем? Не ведаю, не помню, не магу сказаць.

Ачуўся я пад сасною, прысланеным спіною да камля. Побач стаяла вядро чарніц. Поўнае, як вока...

Працёр вочы. Ці не сон усё гэта?

Так і не ведаю дасюль, было тое, пра што расказваю, на самай справе, ці толькі ўявілася, прыблюзнілася, здалося ці прыснілася...

•

У маленстве я часта лятаў у сне: зваліваўся ў нейкія ямы, падаў з вяршынь дрэваў і са стрэх хат і хлявоў, проста, махаючы, быццам птушка крыламі, рукамі кружыў у паднябессі...

Калі ўранні я расказваў бацькам, што я сніў, яны гаварылі: значыцца, расцеш...

Даўно ўжо я выйшаў з дзяцінага ўзросту, даўно не расту. Але сны — што лятаю — усё адно сняцца. Праўда, трошкі іншыя. Ды і лятаю я ў снах ужо інакш — у нейкіх зусім невядомых мне самалётах ці касмічных апаратах. І так хутка, што не паспяваю нават апомніцца, а ўжо стаю ў нейкім новым аэрапорце. Так, у снах, я абляцеў амаль усю зямлю, пабываў у Амерыцы, Аўстраліі, Афрыцы... І што цікава — калі прачынаюся — помню ўсё, што бачыў, надта ж падрабязна, магу апісаць кожную сцежачку, дарожку, дом, лес...

Але не, не гэта самае вялікае дзіва. Дзіва іншае — калі потым я выязджаю ў якія-небудзь далёкія гарады і краіны, мне здаецца, што іх я ўжо аднойчы бачыў, па іх хадзіў... А ў храмах, якія я наведваю і якім па некалькі стагоддзяў, я блукаю быццам па сваёй хаце — мне ўсё там знаёма, я ведаю, што там і дзе стаіць, вісіць... І не, не здзіўляюся, толькі ўспамінаю: так, так, я тут ужо быў...

Што гэта? Ачынаецца мая памяць, згадваецца тое, што калісьці бачылася, было? У сне? А мо... Мо ў тым далёкім, не сённяшнім жыцці, у якім і я і ўсе мы, магчыма, ужо былі, жылі?..

## МОРГ

У 1962 годзе я выдаў кнігу прозы «Барвы ранняй восені», вакол якой некаторыя крытыкі паднялі страшэнны лямант. Чаго толькі не пісалі пра яе ды, заадно, і пра мяне ў газетах і часопісах, чаго не гаварылі на пісьменніцкіх сходах! Нават пленум ЦК КПБ удзяліў маёй сціплай асобе не малую ўвагу. Зацікавіліся мною і тыя службы, якіх заўсёды хвалявала, хто што думае, як глядзіць на свет і жыццё. Словам, я стаў адыёзнай фігурай, са мной нешта трэба было рабіць — такое было патрабаванне не толькі асобных людзей, але і цэлых арганізацый. Паколькі запраторыць за краты мяне не ўдалося, я змог выкруціцца, дзякуючы першаму сакратару ЦК КПБ Кірылу Трахімавічу Мазураву (ён у часе вайны хаваўся на гарышчы нашай хаты), то кімсьці — у «інстанцыях» — ці не па аналогіі з вядомымі са школы фактамі? (помніце: Тараса Шаўчэнку здалі ў салдаты, а Міхаіла Лермантава паслалі пад кулі горцаў) — было вырашана і мяне накіраваць у адну з воінскіх часцей. Я быў вайскоўабавязаны, афіцэр, і супраціўляцца... Не, не стаў. Атрымаўшы позву, прыйшоў у прызначаны дзень і час у ваенкамат, дзе мне ўручылі «предписание», — у ім гаварылася, што я павінен з'явіцца 6 жніўня ў 9 гадзін раніцы ў распараджэнне камандавання Кіеўскай ваеннай акругі для праходжання трохмесячных вайсковых збораў.

6 жніўня роўна ў дзевяць гадзін я стаяў перад яснымі вачыма аднаго з генералаў — камандзіраў Кіеўскай ваеннай акругі. Паколькі быў я членам Саюза пісьменнікаў, а сам генерал, як прызнаўся, у вольныя ад службы хвіліны «баловался стихами», я прагаварыў з ім даволі доўга, у асноўным пра жыццё, літаратуру. У канцы нашай гутаркі генерал прапанаваў мне далёка не ехаць, а заставацца ў самім Кіеве.

— Горад гэты зялёны, прыгожы, — разважаў па-свойму, па-начальніцку, генерал. — Тут ёсць дзе правесці час... Выпускаецца ў нас акруговая газета, вось у яе рэдакцыю я вас і накірую...

Я падзякаваў генералу за гутарку, пажадаў поспехаў на службе і ў творчасці, і, паціснуўшы яму руку, развітаўся.

Пасяліўся я ў гасцініцы. На жаль, асобнага нумара мне не далі — было лета, ішлі ўступныя экзамены ў ВНУ, і Кіеў быў перапоўнены рознымі прыезджымі. У рэдакцыі газеты, куды трапіў у той жа дзень, даведаўшыся, як я ўладкаваўся ў гасцініцы, вырашылі мне дапамагчы — пазванілі начальніку танкавага вучылішча, якое знаходзілася побач, і папрасілі пасяліць мяне ў ім. А заадно выдаць і вайсковую форму, узяць на ўсе віды «довольствия». Пярэчання не было і я з рэзалюцыяй начальніка вучылішча пайшоў у КЭЧ. Маладая, мілавідная жанчына, якая выпісвала патрэбныя дакументы, акінуўшы мяне чорнымі, іскрыстымі вачыма, нібыта між іншым, смеючыся, выказала здзіўленне:

— Навошта вам сяліцца ў размяшчэнні вучылішча? Нават жанчыну, калі вам захочацца, не праведзяце праз КПП. Вы малады, цікавы мужчына, пісьменнік. Хочаце, я дам вам адрас... У цэнтры Кіева... Нават не пакой, а цэлая кватэра... Мужа-афіцэра паслалі служыць на поўнач, а жонка, маладая, вясёлая, пакутуе ад адзіноты... Яна з радасцю вас прыме... Будзе карміць, даглядаць...

Прапанова была звабліваяя. Але я... Не, не прыняў яе, пра што шчыра і сказаў жанчыне.

— Мая справа прапанаваць, ваша прыняць ці не прыняць, — ані быццам не пакрыўдзілася жанчына. — Праўда, мушу вас засмуціць. Асобнага вольнага пакоя ў нас няма, таму пасялю вас пакуль што ў афіцэрскі інтэрнат... Калі вам там не спадабаецца... Прыходзьце да мяне... Штонебудзь прыдумаем...

І какетліва ўсміхнуўшыся, шматзначна падмігнула мне...

«Афіцэрскі інтэрнат», як яго назвала мая апякунша, знаходзіўся ў самым канцы размяшчэння вучылішча, ля агароджы. Гэта была старая цагляная будыніна, у якой стаяла некалькі паходных салдацкіх ложкаў; ля кожнага з іх тулілася тумбачка. Падлога цэментовая, вокны высока — не дастаць. А столь дык і зусім як у царкве — метраў за дванаццаць-пятнаццаць — шэрая, уся ў падцёках. Там, пад ёю, гняздзіліся галубы. Але што мне было да таго — уранні, падняўшыся з пасцелі і памыўшыся, я кіраваўся ў рэдакцыю. Па дарозе быў Лук'янаўскі рынак, дзе я снедаў — купляў бутэльку малака ці грудку тварагу, набіраў яблык, груш, сліў, вішань, і, прысеўшы на лаўку, еў. А потым ужо ішоў далей на вуліцу Арцёма, дзе знаходзілася рэдакцыя. Там мяне працай вельмі не загружалі. Звычайна, спраўляўся з усімі заданнямі я да абеду. Перакусіўшы ў якой-небудзь сталоўцы, ішоў гуляць па горадзе.

Кіеў, як хутка я пераканаўся, быў не толькі «зялёны, прыгожы», ён меў яшчэ і мноства музеяў. Самых розных. Вось іх я і аглядаў адзін за адным, пакуль яны не зачыняліся. Надвячоркам жа блукаў па вуліцах, любаваўся дамамі, людзьмі ці купляў білет і спяшаўся ў тэатр на канцэрт ці якую-небудзь пастаноўку. Знайшліся ў мяне і сябры, украінскія пісьменнікі, з якімі я пазнаёміўся, дзякуючы паэту Міколу Сынгаеўскаму, — ён таксама праходзіў разам са мною вайсковыя зборы ў рэдакцыі. І з імі, новымі сябрамі, я сядзеў у кавярнях, рэстаранах, а то трапляў і ў госці на кватэры то да аднаго, то да другога. У размяшчэнне танкавага вучылішча я вяртаўся позна. Ды і што мне там было рабіць?

У «афіцэрскім інтэрнаце» я заставаў двух-трох, а то і больш афіцэраў, якія ехалі па прызначэнні і спыняліся ў Кіеве. Вядома, сустрэўшыся і пазнаёміўшыся, яны адкаркоўвалі бутэльку і пілі, закусвалі. Я імкнуўся нікому не замінаць — распранаўся і клаўся ў пасцель. З афіцэраў, хто жыў у гэтым інтэрнаце гэтак жа, як і я, пастаянна, быў толькі адзін капітан Нямчура. Быў ён старэйшы за мяне гадоў на дзесяць, невысокі, каранасты, як бы груба высечаны з каменю ці дрэва —

(Працяг на стар. 14—15)

ЛІМ
ЧАСАПІС



## ПРЭМ'ЕРА ДЗВЮХ ПЕСЕНЬ

**«Барцоўскі марш», так называецца новая песня Мікалая Сацуры на верш Пятра Макаля, прэм'ера якой адбылася ў Мінскім цырку на таварыскім матчы па грэка-рымскай барацьбе зборных каманд Беларусі і Расіі.**

**Мінчане і госці сталіцы сталі першымі слухачамі і яшчэ адной новай песні М. Сацуры — «Разлучаныя лёсам» на словы Анатоля Зэкава. Яе, як і першую, выканаў Анатоль Ярмоленка.**

Пятро **ГАРДЗІЕНКА**

## ДАВАЙ НАРОДУ... ЦЫРК!

**Калі верыць камуністычнаму правадыру, дак важнейшым з усіх відаў мастацтва для нас з'яўляецца кіно. Але паўсядзённая практыка паказвае, што больш за ўсё народ прываблівае да сябе цырк. І старыя, і малыя заўсёды знаходзяць у ім нешта такое, што абавязкова хочацца... паглядзець. У наш няпросты час і цырку цяжка выжыць, тым не менш Мінскі дзяржаўны цырк яшчэ трымаецца, як кажуць, наплаву, хоць гэта і нялёгка. Асабліва, калі аб'яўляюцца такія праграмы, як «Экзатычныя жывёлы», што патрабуюць вялікіх фінансавых затрат. Але яны ўсё ж з'яўляюцца. Згаданым прадстаўленнем Мінскі цырк 2 верасня і адкрыў свой чарговы сезон.**

## ПОСТТРАДЫЦЫЯНАЛІЗМ УЛАДЗІМІРА ТОЎСЦІКА



**Менавіта так азначыў мастак сваю выставу, што экспануецца цяпер, і з немалым поспехам, у Нацыянальнай мастацкай галерэі (былы Палац мастацтваў). Імя Уладзіміра Тоўсціка даўно і добра вядомае як у Беларусі, так і за межамі рэспублікі — у Расіі, Азербайджане, Фінляндыі, дзе ён часты ўдзельнік выставаў. Мастак займаецца і педагагічнай дзейнасцю, узначальвае кафедру малюнка ў Беларускай акадэміі мастацтваў.**

**Уладзімір Тоўсцік — прадстаўнік так ярка вызначыўшага сябе сярэдняга, 40-гадовага пакалення мастакоў, якое пачало ўвасабляць нацыянальную ідэю ў самых розных праявах — ад чыстай этнаграфічнасці да каляровай згарманізаванасці старажытных карцін. На памяці яшчэ «выставы шасці мастакоў», якія ішлі шляхам складанай жывапіснай тэхнікі, часам праз калажнасць, другаснасць і пэўную просталінейнасць. Але ва ўсім гэтым не было рафінаванасці, там гучала моц і жаданне сцвердзіць прыгажосць зямлі і яе народа. У. Тоўсцік па-свойму адметны ад усіх. Чалавек як асоба, яго твар, як паказальнік яго сутнасці, займае ў работах вызначальнае месца, а дэталёвасць стварае прыцягальны хаос, мазаіку, якая раптам складаецца ў імкненне супаставіць лепшае і горшае, святло і цені.**

**«Святло і цені», так называецца цыкл работ Уладзіміра Тоўсціка, вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.**

**Н. Ш.**

*Фота А. Мацюша*



# У ПРАМЕНЯХ ЯГО ХВАЛЫ

## АДБЫЎСЯ II МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ДУХОЎНАЙ МУЗЫКІ «МАГУТНЫ БОЖА»

### 1.

Старыя словы спавядалі тут свой спрадвечны сэнс. Любоў, Вера, Вечнасць... Сумленне, Міласэрнасць, Шчырасць, Самаахвярнасць, Бескарыслівасць... Для кагосьці ўсё гэта — не больш чым рудыменты грамадскай свядомасці, у якой гаспадараць словы з процілеглым сэнсам. Для кагосьці так і застаецца «цэнтрам вобласці» тое месца на Беларусі, над якім рассыпаў Усемагутны «праменні свае хвалы», другое лета запар блаславіўшы горад Магілёў на свята, аналагаў якому няма ў свеце.

Недавяркаў ды наваспечаных дзялкоў гаворка пра Яднанне, Веру, Бескарыслівасць насцярожвае, вымушае шукаць «адваротны бок». І шукаў жа сёй-той калі не сваю, дык чыюсьці асабістую выгаду ў правядзенні Міжнароднага музычнага фестывалю «Магутны Божа». Камусьці няўцям, што на зямлі нашай грэшнай адбыцца можа й нешта **прынцыпова не дзеля грошай:** сапраўднае Свята духоўнага яднання. Хто-кольвечы й не здагадваецца, што ўжо другі год запар яго арганізуе купка магілёўцаў, пералічыць якіх пальцаў на руцэ хопіць. І энтузіязм іхні зусім не абстрактны: далёкія ад заможнага жыцця, гэтыя людзі працуюць бясплатна, укладаючы ў справу душэўныя сілы, інтэлектуальную энергію, вольны час, а калі-нікалі — і ўласныя грошы. Прадмет іх «асабістай зацікаўленасці» — сама гэтая справа, бо ў ёй — здаровая аснова, светлая перспектыва, магутная ідэя. Тут кожны ўдзельнік атрымлівае самы чысты й высокі прыбытак, які не мае валютнага эквіваленту, — прыбытак духоўны. Хто гэта зразумеў — далучаецца і калі можа, дапамагае.

Маўчанне — другі год! — рэспубліканскіх органаў культуры наўрад ці можна лічыць дыпламатычным. Ні табе віншавання з нагоды адкрыцця Міжнароднага фестывалю ў Магілёве, ні табе абяцаных прызоў для ўдзельнікаў. Ні візіту ветлівасці, які дапамог бы міністэрству вызначыць, нарэшце, сваю пазіцыю і афіцыйна далучыцца да арганізатараў фестывалю «Магутны Божа», пераканаўшыся, што ў яго зусім яшчэ маладым голасе гарманічна фарміруюцца прыкметы беларускай непаўторнасці ды інтэрнацыянальнай моцы.

Зрэшты, абачлівую пасіўнасць дзяржаўных чыноўнікаў кампенсаваў рух стваральнікаў свята. Дзякаваць Богу і людзям, была вельмі салідная падтрымка Фонду Сораса—Беларусь, які з рызыкоўнай для сябе шчодрасцю фінансаваў новы фестывальны праект і тым самым забяспечыў палову неабходнай сёлета сумы. (А сёлета, як вядома, «Магутны Божа» падвоіў і сваю моц, і адпаведна выдаткі, прыняўшы ў Магілёве больш за тысячу гасцей).

Тым або іншым чынам дапамагалі Магілёўскі камітэт «Дзеці Чарнобыля» (старшыня Н. Рослава), Музей гісторыі Магілёва (дыр. І. Пушкін), аддзел культуры гарвыканкама (заг. Н. Падольская), Ліцэй музыкі і харэаграфіі (дыр. Л. Мішчанка), Беларуская каталіцкая грамада (ст. Ф. Янушкевіч), абласная філія БНФ (А. Фёдараў), гарадская галерэя «Арт-правінцыя» (У. Гвоздзеў), аддзяленне Саюза мастакоў (Г. Конанава). А таксама таварыства «Белы комін» (Н. Касцючэнка, А. Апарына), фірма «Дайнова», банк «Беларусь»...

І як пяць пальцаў рукі, трымала-вяла складаны арганізацыйны рэй тая самая, што й летась, нязломная пяцёрка: старшыня аргкамітэта А. Аляксеенка, старшыня фонду «Магутны Божа» А. Шпількоў, сакратар журы Ж. Ялфімава, пробашч касцёла святога Станіслава кс. У. Блін, дырэктар фестывалю кс. Р. Факсінскі. Справа, з Божай дапамогай распачатая імі летась, аказалася, нягледзячы на ўсеахопны крызіс, жыццяздольнай і жыццядайнай.

Немалаважны факт: каардынатар праграм Фонду Сораса—Беларусь А. Анціпенка, завітаўшы на фестываль, зазначыў, што ён вельмі ўражаны працай арганізатараў, прадстаўніцтвам, якасцю музыкі, а ўсё адметнае, што адбываецца на Беларусі, мае быць падтрымана.

### 2.

Перапоўненыя блакноты, прыпраўленыя няспыннай чарадой думак-згадак, цяжка (як тое было й летась) ператвараюцца ў газетныя нататкі. Так што спадзяюся на цярплівасць ды фантазію чытачоў.

Праўда, каб уявіць «над Беларусяй ціхай і ветлай» буйнае сляпучае сонца ды прычарнаморскую спёку, фантазіі сёлета не трэба... Ратавала прахалода касцёла св. Станіслава, дзе адбываліся конкурсныя канцэрты. Каму дазваляў час, дабіраліся да цудадзейнага магілёўскага возера, на дне якога, кажа легенда, спачывае патанулы храм. Хораша было цёплымі вечарамі, калі збіралася ля фестывальнага вогнішча моладзь, славіла Хрыста ў прыгожых і рытмічных песнях, вадзіла карагоды. Далучалася і мясцовая дзятва, і людзі сталейшыя. І нават рахманыя хатнія сабачкі зацікаўлена пазіралі на свята.




Распаліць самы першы касцёр — гэтай пачэснай справай ганаравалі Вольгу Мікалаеўну Аляксеенку, дачку кампазітара Міколы Равенскага, чый знаны твор даў імя фестывалю і зрабіўся яго музычнай візітоўкай. Тры гадзіны не згасала рытуальнае полымя, якое неўпрыкмет падтрымлівалі сціплыя ўвішныя хлопцы — «дзяжурныя па дровах». А побач на спецыяльна пабудаванай сёлета эстрадзе выступалі госці з Вінніцы — лаўрэат леташняга фестывалю ансамбль «Крэда», інтэрнацыянальная група студэнтаў-паломнікаў, магілёўскае трыо «Жывая вера»; вясёлая манашка з гітарай акампанавала польскім дзеткам; падхапіўшы на рукі малечу гадоў пяці, кружыў пад пратэстанцкі хваласпеў семінарыст у сутане...

У перагрэтай за дзень гасцініцы дружна расчыняліся балконы, але не чуваць было, як тое надараецца сярод прыезджых насельнікаў, ні паўночнага звякання бутэлек, ні п'янога рогату: за сценамі дзінькалі чайныя лыжачкі ў шклянках, гучна абгаворваўся дзённы канцэрт лаўрэатаў, хтосьці хорам «браў» акорд, хтосьці пранікнёна спяваў пад гітару...

Уверцюра фестывалю прагучала ў Палацы культуры «Хімвалакно», даўшы ўяўленне пра напрамак усёй імпрэзы і яе ўдзельнікаў. Адкрываючы свята, яго арганізатары падкрэслівалі выключную ролю звароту да духоўных каштоўнасцяў сёння, у час разладу нават углыбіні чалавечай свядомасці, заклікалі да пошуку шляхоў духоўнага яднання, згоды людзей праз музыку. Удзельнікі канцэрта ўзмацнялі гэты заклік натхнёным выкананнем узораў творчасці ад Баха, Вівальдзі да Манюшкі, Кулiковіча і нашых сучаснікаў. Апафеоз вечара можна назваць традыцыйным: вялікі ўсеагульны хор заспяваў «Магутны Божа», які, паводле трапнага азначэння вядучай З. Бандарэнкі, гучыць ужо як народная песня і як гімн усіх беларусаў свету. Дырыжыраваў, як і летась, маэстра В. Роўда.

### 3.

І пачаліся «святочныя будні». У Ліцэі музыкі і харэаграфіі выступалі музыканты-інструменталісты ды дзіцячыя калектывы. У касцёле гучалі праграмы хораў, салістаў-спевакоў, арганістаў. Карыстаючыся магчымасцю зрабіць не толькі звычайныя трансляцыйныя запісы, а і папоўніць фанатэку ўзорамі духоўнай музыкі, выкананымі на высокім узроўні, у выбітных акустычных умовах, гэтымі канцэртамі апекавалася Беларускае радыё. За пультам студыі на колах працаваў майстар музычнай гукарэжысуры Э. Мартэнс.

Слухаць ізапісваць было што! У Магілёў з'ехаліся госці з Польшчы, Германіі, Францыі, Нідэрландаў, Лацінскай Амерыкі, калектывы з Вінніцы, Новакузнецка, Екацярынбурга, станіцы Ленінградскай Краснадарскага краю, з Калінінградскай вобласці. Былі выканаўцы з Санкт-Пецярбурга і з вёсачкі Макарава, што на Маскоўшчыне. У гэтай стракатай кампаніі Беларусь выглядала разнастайна, гожа і годна. Выступалі вядомыя ў замежжы капэла Акадэміі навук Беларусі (кіраўнік Т. Слабодчыкава) і Гродзенскі хор рэлігійнай музыкі «Дойлідства» (кір. Н. Бульцэвіч) з выдатным салістам-тэнарам А. Урублеўскім. Шчодрыя апладысменты заслужыў і тэнар з ДАВТа Р. Палішчук, і арганісткі К. Пагарэлая (Полацк) ды Г. Кірыенка (Магілёў), прыцягнула ўвагу імя мінскай спявачкі Т. Цыбульскай, а У. Неўдах вылучыўся і як саліст-арганіст, і як акампаніятар, якому давялося суправаджаць выступленні не толькі беларускіх спевакоў.

Сталася нечаканасцю выступленне Пружанскага камернага хору, які спяваў мякка, светла, з нейк вельмі «па-беларуску» прытоенай радасцю. Можна й не здзіўляцца: Пружаншчына ж дала свету Р. Шырму, М. Забэйду... Кіраўнік хору А. Драбышэўскі пасля заканчэння кансерваторыі і працы ў Гомелі быў запрошаны ў Пружанскую школу імя Р. Шырмы. Але пяецца там не толькі дзецям — вось і ўзнікла ідэя стварыць камерны хор. У ім сабраліся музыканты-»народнікі» ды выкладчыкі тэорыі музыкі, настаўнікі геаграфіі, гісторыі, ёсць нават інкасатар і тынкоўшчык. У рэпертуары пераважаюць праваслаўныя песняспевы (хор удзельнічае ў літургіях, у вялікіх царкоўных святах). Асабліва шануецца творчасць беларускіх кампазітараў М. Куліковіча, М. Равенскага, А. Селях-Качанскага. А яшчэ — народныя і сучасныя лірычныя песні: апяванне прыроды, хараства зямлі, лепшага ў чалавеку А. Драбышэўскі лічыць таксама мастацтвам духоўным.

Яшчэ адно фестывальнае дзіва — мужчынскі вакальны квартэт «Чысты голас»

пад кіраўніцтвам А. Сямёнава, у якім пяюць артысты з розных прафесійных мінскіх калектываў. За тры гады існавання пабывалі ў Фінляндыі, Германіі, Аўстрыі, Польшчы, а дома іх мала хто ведае. Хіба толькі тыя, хто цэніць у квартэце не духоўнасць, а нешта іншае: на жаль, дзеля заробку ён займаецца і шлягерамі, робіць эстрадныя пароды... Праграма, выпеставаная для Магілёва, гучала ўзнёсла і ўзрушліва: у адмыслова-музычных сценах касцёла кантакт квартэта з публікай, па словах А. Сямёнава, адчуваўся «на ўзроўні энергіі»...

Зрэшты, усе магілёўскія сустрэчы адбываліся «на ўзроўні энергіі». Мо таму такі шчыры саюз з гледачамі быў і ў вытанчанага беластоцкага кафедральнага хору «Кармэн», і ў зухаватага аматарскага маладзёжнага калектыву «Руах» з Галандыі, і ў дзетак з Валожынскай школы-інтэрната (кір. М. Трапашка).

З гледачамі ўвогуле праблем не было, праблемы былі з месцам на касцельных лавах ды крэселках. Калі сяды-тады ў шчыльных людскіх шэрагах з'яўлялся прагал, сапернікцтва сярод прэтэндэнтаў на вызваленае месца не ўзнікала. Адно аднаму падказвалі, дзе можна сесці, а варта было з'явіцца старому з кійком ці пажылой кабеце, маладзейшыя навыперадкі стараліся ўладкаваць іх замест сябе. Увагу прыцягвалі дзеці — сваёй тактоўнасцю, выхаванасцю. І прычына гэтых «дзівосаў», вядома, не ў тым, што нормы паводзінаў нагадваў тэкст у фестывальных праграмках. Большасць прысутных пра тыя праграмкі й не здагадвалася...

4.

Куды толькі не прыводзіла мяне імкненне ахапіць неабдымнае!

І ў апусцелы пасля канцэрта касцёл — «пачытаць» ні з чым не параўнальныя фрэскі, амаль цалкам раскрытыя за праміулы год мастакамі-рэстаўратарамі.

І ў Музей гісторыі горада, дзе разгарнулася выстаўка «Хрысціянская культура Магілёва»: абразы беларускіх майстроў; арнаты, нацельныя крыжыкі, медальёны; копіі унікальных работ земляка-гравёра Ф. Англейкі; жывапіснае палатно нашага сучасніка А. Камарова з рэканструкцыяй архітэктурнага ландшафту Магілёва, якога ўжо няма. Цікава: падчас маёй экскурсіі з другога паверха пачуліся гукі раяля: хтосьці зайграў «Развітанне з Радзімай»...

Давялося зазірнуць на Магілёўскі радыёвузел, адкуль штодня з дапамогай гукарэжысёра А. Рэдзькіна выпраўляліся ў «жывы» эфір Ю. Быкаў ды Э. Тарлецкі — руплівыя калегі з Беларускага радыё. Для сваіх рэпартажаў яны знаходзілі й цікавых суразмоўцаў. Напрыклад, запрашалі да мікрафона ганаровую госцю свята спявачку В. Аляксеенку-Равенскую. Сёлета ў яе былі асаблівыя ўражанні: выступіла ў якасці салісткі, разам з канцэртмайстрам Н. Чыжовай падрыхтаваўшы некалькі камерных духоўных твораў. Мусіла даць імправізаваны канцэрт ля рэліктавага двухсотгадовага раяля — аглядаючы экспазіцыю ў музеі В. Бялыніцкага-Бірулі. Адбыўся і запіс для Магілёўскага ТБ.

Нечакана розных людзей сабраў «Магутны Божа» пад нябесным дахам благаслаўлёнага горада. Немагчыма было не заўважыць каларытную постаць з мікрафонам на даўжэзным прутку: Жульен Камю, з Ліёна, аўтар і рэжысёр перадач экуменічнага хрысціянскага радыё, якое перадае свае рэлігійныя праграмы праз спадарожнікавую сістэму на ўсю Францыю. На Беларусі ўпершыню. Галоўнае ўражанне — у гэтай краіны ёсць ужо новыя магчымасці, з'явілася свабода, але наканавана пераадолець шмат цяжкасцей.

Вось іншая постаць: магілёўскі мастак, выкладчык школы з архітэктурна-мастацкім ухілам Э. Кавалеўскі. «Калі б я не маляваў, то стаў бы музыкантам», — усміхнуўся, захоплена разважаючы пра мастацтва, якое дапамагае яму мысліць цікавымі вобразамі. А наконт таго, што моладзь у сваіх эмацыянальных хваласпевах Ісусу не выглядае строгай, сп. Кавалеўскі, шчыры католік, заўважыў: на Захадзе ў час пілігрымак да святых месцаў людзі славяць Бога ў жвавых маршавых песнях. Ад гэтага робіцца проста і весела ў нялёгкай дарозе. Хрысціянства скіроўвае чалавека на тое, каб радавацца жыццю! Вопыт пілігрымак засведчыў, што, пераадольваючы шлях у цяжкім, гнятлівым настроі, людзі часцей маюць і мазалі, і больш непрыемныя здарэнні.

Не зважаючы на мазалі ды гузакі, адчувань радасць жыцця і дзяліцца ёю з тымі, хто побач, — тут, бадай, галоўнае падабенства людзей, якіх звёў у Магілёве «Магутны Божа». Хіба не Радасць Жыцця натхняла лаўрэатаў І-га фестывалю — маладзечанскі «Sonorus» (кір. А. Шут), мінскі мужчынскі камерны хор «Унія» (кір. К. Насаеў) — ладзіць у горадзе неплананаваныя канцэрты? Між іншым, сёлета К. Насаеў быў у Магілёве і ў якасці маэстра хору «Кантус» — тэрмінова замяніў за пультам галоўнага хормайстра Н. Пашчанку і паспяхова, «на дыплом», правёў конкурсную праграму.

Дзеля канцэрта «Уніі», наладжанага па просьбах слухачоў, я прапусціла і конкурс маладзёжных ансамбляў, і канцэрт «зорак» беларускай эстрады (прыязджалі А. Ярмоленка, Н. Мікуліч, А. Елісеенкаў, Д. Смольскі...). Быў спякотны суботні дзень, але ў той час як «эстраднікі» пахмурнелі ад пасіўнасці магілёўскай публікі, «уніяты» дзівіліся на поўную залу Гарадскога дома культуры. Ледзь не па-пляжнаму апранутыя дамы ўздыхалі: не выратоўвалі расчыненыя вокны. Што ўжо было казаць артыстам у фраках! А тут яшчэ з дома насупраць бессаромна выбухнула рэстаранная музыка вяселля: вокны мусілі зачыніць... Але «Унія» хвіліну за хвілінай дарыла сустрэчу з высокім стваральным духам, вымушаючы нас забывацца, якой мужнасці вымагаюць ад спевакоў гэтыя натхнёныя імгненні. Напевы з Супрасльскага ірмалою, фрагменты з «Літургіі» М. Куліковіча, ягоныя ж апрацоўкі...

І калі раптам пасля «Калыханкі» дырыжор са зніякавелым тварам павярнуўся да публікі ды мовіў: «Шаноўныя сябры, а цяпер дазвольце...» — падумалася, што далей канцэрт прадаўжаць няможна. Ік жа загула шчаслівая публіка, пачуўшы ўсяго толькі просьбу — дазволіць зняць верхнюю частку строяў! І зноў цешыла душу і слых музыка М. Равенскага, С. Манюшкі, Ю. Семянякі, негрыцянскія духоўныя спевы. Заключным нумарам быў гімн «Магутны Божа». Слухалі стоячы. Доўга адбівалі далоні — ажно пакуль пад воплескі не прамаршыравалі да дзвярэй знясіленыя, але ўсцешаныя артысты.

Цяжка думаць пра тое, што «Унія», гэты музычны самародак, непатрэбны ў дзяржаўнай скарбонцы мастацкіх каштоўнасцяў. Хор паранейшаму не мае прафесійнага статусу, яго артысты зарабляюць на жыццё ў іншых калектывах, ад супольных камерцыйных выступленняў адмаўляючыся прынцыпова. Кірыла Насаеў не надта ахвотна паведаміў, што «Унія» г. зв. прэстыжнымі канцэртамі займацца не будзе: «Толькі аднойчы паспрабавалі мы выступіць «пад стук нажоў ды відэльцаў» і зразумелі, што гэта — не для нас. Ну не можам мы гэтак... Лепей проста паспяваем для людзей».

5.

Тым часам на фестывалі вызначыўся новы лідэр — магутны, хаця і камерны, Вінніцкі хор (кір. В. Газінскі). Гран-пры, незвычайны стары авальны абраз у прыгожым футарале — фігура Маці Божай, выкананая, на думку знаўцаў, у традыцыях беларускага іканапісу, сімвалічна перайшоў да ўкраінскіх сяброў. Гэта заслужана!

І ўсё ж цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў, як і летась, выклікала (дый не толькі ў мяне) двайстае пачуццё. Хоць і старалася быць аб'ектыўным ды яшчэ не забыцца пра «завушніцы для сястрыцы», журы пад старшынствам прафесара В. Роўды, якое складалася з вядомых беларускіх музыкантаў — Г. Каржанеўскай, Л. Каспорскай, В. Скорабагатава, нашага англійскага госця Г. дэ Пікарды, — пакрыўджаныя вынікамі судзейства засталіся. А гэта, што ні кажы, ужо ніяк не стасуецца з ідэяй духоўнага яднання і згоды.

«Магутны Божа» — не турнір для прафесійных выканаўцаў, а тым больш для парафіяльных або аматарскіх хароў. Тут сістэма заахвочвання ды ўзнагарод мае быць асаблівa далікатнай, рэалізавацца, дапусцім, праз дарункі спонсараў, грамадскіх арганізацый і да т. п., праз вызначэнне адметнасцяў, характэрных вартасцяў, а не, дaруйце, гатунковасці: 1-шы, 2-гі, 3-ці і г. д. Магчыма, журы скіруе сваю пільнасць на лепшае выкананне абавязковага твора беларускіх аўтараў, які будзе загадзя прапаноўвацца ўсім удзельнікам наступнага фестывалю. Магчыма, варта падумаць пра конкурс новых твораў духоўнай музыкі, каб прыцягнуць да магілёўскага міжнароднага свята і кампазітараў.

Пра фестываль мы, канечне, пагаманілі й са спадаром Пікардам. Жартам ён успомніў сваю «спакроўленасць» з Магілёвам, у якім сам дасюль не быў, але з якога вяртаўся Пікардаў прадзед, жаўнер Напалеона, — вяртаўся ў Францыю... без вуха, адмарожанага няйначай у тутэйшых краях. А ўсур'ёз — ураджанні ад Магілёва самыя прыязныя, і наш госць шчаслівы тым, што беларусы, якія «за 200 гадоў прывыклі сядзець з адкрытым ротам і чакаць, хто ім і што пакладзе», набылі свой добра арганізаваны фестываль: «без Расіі і без Амерыкі сумелі ж!» Трапляючы сюды, людзі будуць ведаць, што ёсць Беларусь, а не колішняя «Белараша».

Добры знак талерантнасці ў тым, што пад скляпеннямі касцёла гучала праваслаўная харавая музыка, спявалі царкоўныя калектывы. Але наш госць заўважыў, што дамінантай фестывальнага рэпертуару сталася творчасць С. Рахманінава, П. Чеснакова, А. Архангельскага: гэта натуральна, калі выступаюць расійцы, і гэта засмучае, калі бліскучыя харавыя палотны рускіх кампазітараў (самім Пікардам вельмі ўпадабаныя) выконваюцца ў такой колькасці, якая не на карысць адметнаму абліччу іншых нацыянальных калектываў.

На такіх фэстах украінцы павінны спяваць пераважна сваю музыку, беларусы — сваю, дэманструючы адметнасць, выклікаючы старонною цікавасць менавіта непадабенствам. А госці, едучы сюды, хай бы рыхтавалі й беларускі твор — гэта было б адзнакай сапраўднай культуры.

Зразумела, гладка бывае толькі на паперы, а справа жывая выяўляе цэлы комплекс недаробак і праблем. Магілёў мае 5 прыдатных для канцэртаў залаў. Сёлета дзве з іх аказаліся пад замком: нонсенс, але кіраўнікі педагагічнага факультэта Акадэміі музыкі ды музычнага вучылішча рашуча адмовіліся прымаць у сваіх сценах удзельнікаў фестывалю. Былі розныя спробы дыскрэдытаваць свята праз мясцовыя газеты, абвінавацiць... у сектантцтве, а то і — уявіце сабе! — у шкодным уплыве на санітарна-эпідэміялагічную абстаноўку ў горадзе. Зрэшты, усё гэта — «мазалі», якія не павінны атруціць радасць добрай справы і настрою на яе працяг.

Мэта фестывалю не толькі ў яднанні людзей, але і ў тым, каб збіраць і паказваць духоўны скарб усіх народаў, усталёўваючы сваё адметнае аблічча ў сусветнай культуры. Для гэтага патрэбны і арганізацыйны вопыт, і надзейны фінансавы грунт. Менавіта эканамічныя праблемы не дазволілі сёлета сабрацца міжнароднаму журы, у склад якога былі запрошаны спецыялісты з Германіі, Румыніі, Польшчы, Балгарыі. Немагчымасць забяспечыць транспартнае абслугоўванне калектываў вымусіла адмовіцца ад правядзення канцэртнага цыкла «Рэха фестывалю». Вялікіх сродкаў вымагае заказ фірмовага аргана: устаноўлены ў касцёле электронны інструмент хоць і выратоўвае, але спецыялісты ўспрымаюць яго як пародыю ў цудоўных акустычных умовах храма. Прыгожай, нікім не аплачанай фантазіяй застаўся і прыз імя М. Равенскага, які мусіла ўручаць дачка кампазітара. (Між іншым, калі на тое пайшло, яна прафесіянальная спявачка, спадарыня з добрым густам і хрысціянскай ментальнасцю, магла б працаваць у журы).

6.

У тую задушлівую гарачую нядзелю, калі наблізіўся фестывальны апафеоз, у Магілёве адбыўся цуд. Гадзіны за дзве да ўрачыстага закрыцця пахмурнелае неба прашыла бліскавіца і прыйшоў доўгачаканы ачышчальны дождж (якога, напрыклад, мінчанам давялося чакаць яшчэ ўга колькі). Моцны, з перунамі, з градам. Калі прыспеў час збірацца на канцэрт, залева пачала сціхаць. Прэзідэнт фонду «Магутны Божа» А. Шпількоў расказваў потым, як назіраў ён адыход навальніцы са свайго 12-га паверха, дзе адначасова было відаць і адступленне шэрай сцяны хмар, працятых маланкай, і лазурнае неба на пасвятлелым гарызонце. Амаль адначасна з раскатам грому, быццам з яго, недзе там, на даху, нараджаны, паляцеў удалечыню бусел, спакойна выпрастаўшы белыя крылы...

Праз нейкі час распачалася вялікая ўрачыстая цырымонія. І сярод многіх добрых слоў прагучала ў той вечар кароткая прамова лідэра БНФ дэпутата З. Пазняка, які акурат быў у Магілёве і меў магчымасць завітаць на канцэрт: «Ёсць хараство боскае і хараство дэманічнае. Хараство боскае ўспрымаецца праз замілаванне, а дэманічнае — праз страсць. Вельмі добра, што на нашай зямлі — **гэты** фестываль. Ён дапамагае адраджэнню нашай зямлі. Якія б ні былі перашкоды, але яны пераадольны, яны пераадольваліся сёлета, і я не сумняваюся, што наступным разам іх не будзе. Віншую з угрунтаваннем вялікай духоўнай традыцыі, і няхай жа жыве яна і прасвятляе нашы душы».

... Напрыканцы вечара прасветленыя душы спявалі гімн Усемагутнаму.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: моманты фестывалю.*

*Фота М. ЦІТОВА і А. ЛІЦІНА*









# ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ АРЫЯЎ

ГІСТАРЫЯСОФСКІ НАРЫС

Станіслаў СУДНІК

## ЦІ БЫЛО Ў СЛАВЯН ДАКІРЫЛІЧНАЕ ПІСЬМЕНСТВА?

Пасылка, што славяне ў Краіне арыяў мелі высокі ўзровень цывілізацыі, патрабуе хоць бы нейкага пацвярджэння. Такое пацвярджэнне лепш было б знайсці ў выглядзе матэрыяльных помнікаў. Такія помнікі ёсць. Перш чым звярнуцца да іх, глянем хаця б бегла на праблему дакірыліцкага пісьменства славян.

Доказам існавання ў славян пісьменства ў дакірыліцкі перыяд быў прысвечаны шэраг навуковых прац. Зыходзячы з гэтых прац, а таксама ў сувязі з адкрыццём новых старажытных помнікаў славянскага пісьменства факт існавання пісьменства ў славян наўрад ці выклікае сумненне. Пра гэта сведчаць шматлікія старажытныя літаратурныя крыніцы славянскія, заходнееўрапейскія і арабскія.

На падставе іх П. Чарных сцвярджае: «Можна гаварыць аб бесперапыннай (з дагістарычнай эпохі) пісьменнай традыцыі на тэрыторыі старажытнай Русі» /Чарных П. Я. Паходжанне рускай літаратурнай мовы і пісьменства/.

А. Львоў выводзіць старажытнае славянскае пісьменства з клінапісу (І тысячагоддзе да н. э.), а Н. Канстанцінаў — з кіпрскага складовага пісьменства V—VI ст. да н. э. А. Формазаў сцвярджае, што нейкае пісьменства, якое складалася з умоўных знакаў, аформленых у радкі, агульнае для ўсёй стэпавай паласы Расіі, існавала ўжо ў сярэдзіне ІІ тысячагоддзя да н. э.

Як бачна, мяжа зараджэння пісьменства славян сягае ўсё глыбей і глыбей. Але былі і іншыя меркаванні. Так, чэшскі вучоны Ч. Лаўкотка ў манаграфіі па гісторыі пісьменства сцвярджаў: «Славяне, пазней выступіўшыя на еўрапейскім культурным попрышчы, навучыліся пісаць толькі ў ІХ стагоддзі. Так званыя славянскія руны, на якія часта спасылаліся, аказаліся пры падрабязным даследаванні фальсіфікацыяй. Таму гаварыць аб наяўнасці пісьменства ў славян раней канца ІХ стагоддзя не выпадае, калі не лічыць засечак на бірках і іншых мнематэхнічных сродках» /Лаўкотка Ч. Развіццё пісьменства/.

Час вярнуцца да помнікаў: летапісных і іншых літаратурных крыніц. Важнейшыя з іх: «1. «Сказанне аб пісьменах» Чарнарызца Храбра, дзе Храбр кажа, што славяне да прыняцця імі хрысціянства кніг не мелі, але ўжо выкарыстоўвалі для гадання і ліку «чэрты і рэзы», а пасля прыняцця хрысціянства — да ўвядзення кірыліцы — грэчаскія і лацінскія літары; 2. Паведамленне арабскага падарожніка Ібн Фадлана за 921 г.; 3. Паведамленне арабскага пісьменніка Эль Масудзі да 956 г.; 4. Паведамленне епіскапа Мерзебургскага Тытмара (976—1018 гг.); 5. Паведамленне арабскага вучонага Ібн Эль Нядыма 987 г.; 6. Паведамленне персідскага гісторыка Фарх ад Дзіна. З гэтых крыніц асаблівую ўвагу звернем на паведамленне Ібн Эль Нядыма, які дае замалёўку ўзора гэтага пісьменства:

[illegible]

Вучоныя па-рознаму падыходзяць да гэтага ўзора. Адны лічаць, што гэта скажонае арабскае напісанне (але чаму тады араб Ібн Эль Нядым не распазнаў гэтага?) Другія спрабавалі знайсці агульнае са скандынаўскімі рунамі. Большасць сучасных расейскіх і балгарскіх вучоных лічаць надпіс Ібн Эль Нядыма узорам славянскага дакірыліцкага пісьменства тыпу «чэрт і рэзаў».

Паспрабуем павярнуць гэты надпіс на 90° супраць гадзіннікавай стрэлкі і параўнаем знакі са знакамі графікі дэвангара:

[illegible] і [illegible] да [illegible] ра

Калі падабенства верхняга знака да графемы «і» спрэчнае, то ніжні мае выключнае падабенства да графемы «да» і блізкі да графемы «ра». З улікам магчымасці скажэнняў упісваюцца ў стыль графікі дэвангары і сярэднія знакі.

*Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары*

Але, калі славутыя «чэрты і рэзы» — гэта постбрамінская ці постдэвангарская графіка, — то яна была характэрна для ўсіх славян і сляды яе павінны застацца ў іншых месцах і перш за ўсё ў асяродку славянства ў вярхоўях Віслы, Буга і Прыпяці.

У 1864 годзе каля вёскі Драгічына на Заходнім Бузе былі знойдзены сотні свінцовых пломб. На шмат якіх з іх былі выбіты на адным баку кірыліцкія літары, а на другім — незразумелыя знакі. Параўнаўшы гэтыя знакі з графемамі дэвангары, бачым, што яны з'яўляюцца элементамі графем, якія па гукавым значэнні блізкія да кірыліцкіх літар. Так, кірыліцкай «Ж» адпавядае «Ша», «Б» — «Ба», «В» — «Ва», «Т» — «Та». Прычынай можна вызначыць даволі позні ўзрост гэтых знакаў, таму што згублена верхняя і бакавая рысы, але тым не менш гэтыя пломбы — свайго роду транслітарацыя з дакірыліцкага постдэвангарскага пісьменства на кірыліцкае.

Ёсць яшчэ адзін цікавы момант. У надпісе Ібн Эль Нядыма на канцах рысаў ёсць колцы, чаго няма ў дэвангары. Але колца — асноўны элемент славянскай азбукі, якая называецца «глаголіца». Знайсці падабенства глаголіцы да дэвангары немагчыма, яго няма, але ёсць адна асаблівасць, якая дае падставу сцвярджаць, што на глаголіцы адчуваецца ўплыў дэвангары.

Характэрнай асаблівасцю азбукі дэвангары з'яўляецца тое, што яна падрадковая. Літары як бы падвешваюцца пад радком, быццам гронкі вінаграду на шнурку. Перада мною старонка старажытнейшага глаголіцкага рукапісу «Кіеўскіх аркушаў» (пачатак Х ст.). Што мы бачым? Тэкст выраўнены не па ніжнім, а па верхнім краю літараў. Тэкст падрадковы, чаго не было ў ніводнай з вядомых мне еўрапейскіх ці блізкіх да еўрапейскіх азбук.

Такім чынам, з усяго сказанага можна зрабіць выснову, што графіка дэвангары ці брахмі была вядома славянам і яны карысталіся ёю ў Еўропе пасля выхаду з Індыі, што пацвярджае іх колішні высокі ўзровень цывілізацыі...

## АРЫЙСКАЯ АСНОВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Як ужо адзначалася, санскрыт узнік на аснове пракрытаў усходняй часткі Краіны арыяў, але менавіта ва ўсходняй частцы мы вызначылі прарадзіму і крывічоў, і дрыгавічаў, і ліцвінаў. Таму ў санскрыце павінна была захавацца вялікая колькасць слоў з моў і крыві, і гуда, а ў беларускай мове ў сваю чаргу павінна захавацца нейкая колькасць слоў, што прайшлі праз тысячагоддзі і сёння супадаюць па значэнню і гучанню з тымі старажытнымі словамі, якія трапілі ў санскрыт. Возьмем «Санскритско-русский словарь» А. Качаргіной на 30000 слоў. Выберам з яго прабеларускія словы. Справа цяжкая, але патрэбная. Даволі беглы прагляд дае да 750 прабеларускіх слоў наўпроставага ці ўскоснага супадзення, а гэта каля 4 працэнтаў. Безумоўна, такіх слоў больш, але і 4 працэнты, што прайшлі праз 5 тысяч год, нешта значаць. 4 працэнты з 30000. Беларуская мова была зведзена да стану, калі ў ёй заставалася для шырокага ўжытку ўсяго некалькі тысяч слоў. Ад гэтай іх колькасці санскрыцкі элемент складае 10 працэнтаў, і мы маем сур'ёзную падставу, каб назваць беларускую мову самай арыйскай мовай свету. Звернемся непасрэдна да санскрыцкай лексікі.

Характэрнай і цікавай асаблівасцю санскрыцкай лексікі з'яўляецца наяўнасць характэрных беларускіх элементаў. У санскрыце, як і ў беларускай мове, ёсць гук «дж», пры гэтым ён абазначаецца асобнай літарай. У санскрыце ёсць гук «ў» («у» нескладовае, якое ўжываецца толькі пасля літары «а», г. зн. пасля галоснай). Ёсць гук і літара «г» — фрыкатыўнае (беларускае), абазначаецца асобнай літарай. Характэрная наяўнасць прыстаўной зычнай «г» (прычым «г» — фрыкатыўнага), падаўжэнне зычных шляхам іх падваення (таму, дарэчы, неправамоцныя пасылкі, што прыстаўныя зычныя мы запазычылі ад балтаў). Слова «гэй» пісалася праз «г» яшчэ 5000 гадоў таму!

Цяпер непасрэдна разгледзім некаторыя выключна беларускія словы, якія маюцца ў санскрыце. Пачнём са слоў наўпроставага супадзення (усе словы будуць давацца ў беларускай транслітарацыі).

«кавала» — кавалак; глыток
«гіма» — зіма
«свар» — сварыцца; прыдзірацца; лаяцца
«свія» — свой; уласны; сваякі
«сабар» — сябар; той,хто дае
«сама*вартана*» — вяртанне вучня дадому
«в*рана*» — рана; раненне
«швета» — светлы; белы
«ма» — няма
«праціваң» — працівіцца; пярэчыць
«дэвар» — дзевер
«даля» — частка; доля
«дам» — дом
«грама» — *грама*да; натоўп; людзі; жыхары
«прачая» — праца; збіранне
«прачар» — рабіць; здзяйсняць
«плавана» — плаванне; купанне
«сама*рух*» — *рух*ацца ўверх; падымацца; усходзіць.

Тлумачыць тут што-небудзь амаль не трэба. Відавочна, што словы «сябар», «праца», «грамада», «рух», якія з'яўляюцца візітнай карткай беларускай мовы, не «прыдуманы праклятымі нацыяналістамі» а маюць узрост 5—7 тысяч гадоў.

Тысячагоддзе ёсць тысячагоддзе. І словы на працягу яго змянілі сваю «афарбоўку». Гэтыя змены яшчэ больш яскрава высвечваюць развіццё мовы і высокі ўзровень культуры нашых прашчураў.

Разгледзім прыклады:

«кара» — падаткі, даніна (сапраўдная кара, што тады, што зараз. — **С. С.** Далей заўвагі мае).
«кавача» — панцыр, кальчуга (іх сапраўды кавалі)
«кара» — вязніца, турма, зняволенне (месца адбыцця пакарання)
«амулья» — каштоўны, бясцэнны (параўнайце са словам «амулет»)
«авідзіта» — невядома
«аста» — страла (параўнайце «асцюк»)
«агіта» — кепскі, шкодны, злы (параўнайце з «агідны»)
«*гута*-вага» — агонь (параўнайце з «гута», дзе ўсё грунтуецца на агні)
«апрыя» — непрыяцель
«гала» — плуг (параўнайце «пра*галак*», які робіцца ў лесе сякерай і плугам)
«гава» — крык, загад (параўнайце «*гава*рыць»)
«стана» — жаночыя грудзі (дэталь жаночага туалету старыя людзі на Беларусі яшчэ і зараз называюць «станік»)
«ступа» — будыйскае культавае збудаванне канічнай формы (беларускія ступы таксама маюць канічную форму)
«стхала» — посуд (параўнайце са словам «стол», на якім посуд стаіць)
«*саламка*ра» — упрыгожаны (параўнайце са словам «саломка». Ці не з тых часоў робяць беларусы ўпрыгожанні з саломкі?)
«січ» — край, кайма (параўнайце «сячы, адсячы»)
«сата» — рой (параўнайце «соты»)
«сама» — такі самы
«сама*веча*» — дамова, пагадненне (пагадненні і прымаліся на *вечах*)
«сампранүд» — падганяць, прыводзіць у рух (параўнайце «прынудзіць»)
«самаста» — звязаны, злучаны (параўнаем з антонімам «самастойны», слова змяніла сэнс на процілеглы)
«шаптар» — той, хто кляне (параўнайце «шаптун»)
«шата» — прасторная вопратка (параўнайце «шаты»)
«шала» — дом, пакой (параўнайце «зала»)
«швашру» — свякруха
«снуса» — снаха, нявестка
«ві*лүп*» — рабаваць (параўнайце «луп, лупіць»)
«вілепа» — мазі, прыціранні (параўнайце «ляпіць, вылепіць»)
«веда» — веды, святыя веды, назвы гімнаў, песняў, сабраных у самхіты (сшыткі, зборнікі; В'яса раздзяліў іх на 4 зборнікі: Рыгведу, Яджурведу, Самаведу і Ашхарваведу)
«*веда-від*» — той, хто *ведае веды*
«авіка» — авечка
«вічар» — расходзіцца (параўнайце «вечар», якім сапраўды ўсе расходзяцца па дамах)
«парвата» — які складаецца з вузлоў (параўнайце «парваны, парваты»)
«пада» — нага (параўнайце «падэшва»)
«пут» — ахопліваць (параўнайце «путаць»)
«пута» — загон для жывёлы
«ніпіці» — напітак
«нірджыва» — нежывы
«ні*вартана*» — *вяртанне*
«ніведана» — паведамленне (параўнайце «невядомае»)
«ніш» — ноч
«н'яда» — яда, ежа
«пад» — падаць
«параджая» — паражэнне, страта
«нагара» — горад — вось тут трэба задумацца, ад якога ж слова ўзнікла слова «горад», ад слоў «гарадзіць, агароджа» ці мо ад слоў «на гары», «гара». Санскрыт схіляе да апошняга.
«на*гара-джана*» — *гараджане*
«двара» — дзверы
«дхара» зямля (параўнайце «араць»)
«нава» — новы
«драв'я» — драўляны, зроблены з дрэва
«чатвар» — чатыры (параўнайце «чацвер» — чацвёрты дзень тыдня)
«тата» — бацька
«клеча» — муна, боль, нядуг (параўнайце «калецтва»)
«уруці» — зямля (параўнайце «араць»)
«варджата» — вар'ят
«грыва» — шыя, патыліца (параўнайце «грыўня» — абруч з дарагога металу, які насіўся на шыі, пазней грашовая адзінка. Дарэчы, у каня грыва таксама на шыі
«агні» — агонь, бог агню, у ведыйскі час адзін з галоўных багоў.

Гэта толькі частка слоў, якія можна было б прывесці. Я не задаваўся мэтай неяк упарадкаваць іх. Для гэтага патрэбен не адзін год працы. Мне здаецца, не хутка на Беларусі дойдзе справа да «Санскрыцка-беларускага слоўніка». Але тут развязвалася задача паказаць паходжанне ўласна-беларускіх слоў, што вельмі важна, бо вучоныя мужы на Беларусі не перастаюць выводзіць беларускія словы з розных замежных моў. Напрыклад, А. Булыка ў «Слоўніку іншамоўных слоў» выводзіць слова «праца» з польскай мовы, але ж слова «праца, прачас» існавала 5000 гадоў таму, калі ніякіх палякаў на свеце не было, і існавала ў Краіне арыяў, дзе жылі нашы прашчуры крыві і гуда. Для іх яно і азначала «працу» (прымітыўнае збіранне)...

Мовай яшчэ больш старажытнай, чым санскрыт, з'яўляецца ведыйская мова, мова самай старажытнай на Зямлі кнігі «Веды». І ў гэтай мове мы знаходзім беларускія словы... Ні адна інда-еўрапейская мова не захавала такой колькасці арыйскіх слоў, ні адна не мае такога падабенства да санскрыту, як мова беларуская. Чаму ж так?

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА — САНСКРЫТ СЛАВЯНСТВА

Інда-еўрапейскія плямёны падчас рассялення на тэрыторыі Індыі размаўлялі на блізкіх дыялектах — пракрытах. Дапісьмовая першамова ўяўляла сабой мову, дзе аднаму слову адпавядала некалькі паняццяў, а аднаму паняццю некалькі слоў. Яшчэ больш багатымі былі спалучэнні словазлучэнняў. Напрыклад, калі тэрмін «белы» можна выказаць пяццю словамі і тэрмін «кветка» — пяццю, то тэрмін «белая кветка» дае 25 спалучэнняў. Менавіта гэтае багацце форм і дазволіла ўтварыцца з адной першамовы такой велізарнай колькасці моў.

На аснове заходніх пракрытаў створаны старажытнейшы помнік старажытнаіндыйскай літаратуры «Веды». Час станаўлення мовы «Ведаў» — XV—XI стст. да нашай эры. Час станаўлення пракрытаў сягае ў 3—5 тысячагоддзе да нашай эры.

На аснове ўсходніх пракрытаў у VII ст. да нашай эры выкрышталізавалася мова, якая атрымала назву эпічны санскрыт. Санскрыт — значыць, апрацаваны. У V—IV ст. да н. э. Паніні ў трактаце «Васьмікніжжа» сфармуляваў нормы класічнага санскрыту. Праўда, адбылося гэта значна пазней таго часу, калі цікавыя для нас плямёны славян пакінулі Краіну арыяў.

Дзякуючы «Ведам» і Васьмікніжжу» адбылася кансервацыя мовы і мы можам параўнаць сучасную беларускую мову з мовамі, якія на 2,5—3,5 тысячы гадоў бліжэй да іх агульнай першамовы, і перш за ўсё з санскрытам. Чаму менавіта беларускую і чаму менавіта з санскрытам? Справа не толькі ў тым, што беларуская мова развілася з тых самых пракрытаў, што і санскрыт, і не ў тым, што беларуская мова мае з санскрытам, як было ўжо паказана, блізка падобную лексіку і мноства агульнага слоўнага і лексічнага запасу. Справа яшчэ і ў тым, што развіццё беларускай мовы калі не чыстая, то вельмі набліжаная да арыгінала копія развіцця індаеўрапейскай першамовы ў свабоднай ментальнай прасторы. Тут трэба крыху патлумачыць.

Мова жыве не толькі ў прыродзе, але і як носьбіт інфармацыі ў ментальнай прасторы. Шырыня і чысціня гэтай прасторы аказваюць выключны ўплыў на развіццё і фармаванне мовы, накшталт таго, як форма пасудзіны надае форму ўсякай вадкасці ці аморфнаму целу, памешчанаму ў гэтую пасудзіну.

*(Працяг на стар. 14)*

## КАЛЕКЦЫЮ ПРАДСТАЎЛЯЕ ФІРМА



**У Доме прыроды, што ў Траецкім прадмесці, працуе ўжо семнаццатая выстава, арганізаваная вытворча-камерцыйнай фірмай «Жыльбел». На ліку фірмы — персанальныя выставы мастакоў розных творчых стыляў, апошнім часам тут паспяхова паспрабавалі форму тэматычных экспазіцый. Так папярэдняй была выстава, прысвечаная маладой беларускай станковай графіцы. Нядаўна фірма прадставіла сваю калекцыю — больш за трыста карцін. Экспазіцыя будзе зменена некалькі разоў, улічваючы невялікія памеры залы.**



**Цікава, што ў адрозненне ад іншых калекцыянераў, «Жыльбел» працуе з мастакамі на «парытэтных» пачатках. За вялікія выдаткі па ўтрыманню залы і арганізацыі экспазіцыі яны «расплачваюцца» падарункам работ. Фірма дапамагае творцам матэрыяльна, асабліва падтрымлівае пачынаючых. Такое мецэнацтва дае плён. Тут не проста дэманструецца набытае, калекцыя дае магчымасць убачыць зрэз сучаснага беларускага мастацтва, дзе суіснуюць рэалістычныя пошукі і стылёвыя эксперыменты. Галоўнае, выстава не займаецца параўнаннем ці прапагандай, гэта проста заклік да спакойнага асэнсавання стану сучаснага мастацтва краіны.**

**Н. Ш.**



*На здымках: І. Рымашэўскі «Лясное возера»; Л. Шчамялёў «Зімні спакой»; Р. Скрыпнічэнка «Аўтапартрэт»*

*Фотарэпрадукцыі А. МАЦЮША*

# ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ АРЫЯЎ

*(Пачатак на стар. 13)*

З развіццём цывілізацыі ментальная прастора запаўняецца рознага роду інфармацыяй, а памеры яе абмяжоўваюцца рамкамі рознага характару. Мова ў гэтай напаўзапоўненай прасторы павінна прыстасоўвацца, шукаць большае месца, упісвацца ў пэўныя рамкі... Найбольш натуральнай і самабытнай з'яўляецца мова людской грамады, якая існуе ў непасрэднай еднасці з прыродай і не мае ніякіх вонкавых ці ўнутраных уздзеянняў, *такіх як іншыя мовы*, граматыка, развіццё новых сфер дзейнасці і да т. п. Іншыя мовы могуць уплываць унясеннем тэрмінаў, у якіх узнікла патрэба, але якія яшчэ не сфармаваліся ў дадзенай мове. Новыя сферы дзейнасці таксама патрабуюць паскоранага развіцця мовы дзеля выпрацоўкі новых тэрмінаў. Граматыка ўнармоўвае правапіс, вымаўленне і кансервуе тэрміны і паняцці. Усё гэта замінае плаўнаму эвалюцыйнаму развіццю мовы... Прыклады: 1. Славянскія мовы вытварылі словы «свечка», «лучына», але запазычылі «лямпа», «ліхтар». Каб гэтага запазычання не адбылося, то нарадзіліся б свае словы; 2. Развіццё новых галін навукі, напрыклад, ядзернай фізікі, выклікала запазычанне шмат якіх слоў, але *разам з тым і ўзнікненне сваіх тэрмінаў* (паўраспад, цяжкая вада, ланцуговая рэакцыя) па прынцыпу жарганізацыі мовы; 3. Прыняцце ўсходнімі славянамі царкоўна-балгарскай граматыкі загнала расейскую мову ў такія жорсткія рамкі, што змяніла ход развіцця расейскай мовы і зрабіла яе практычна цалкам непадобнай да стараславянскай гутарковай мовы.

З усіх індаеўрапейскіх моў найбольш архаічнай, расквітнеўшай у адносна чыстай і неабмежаванай ментальнай прасторы з'яўляецца прамова (першамова) індаеўрапейскай расы, прынамсі, з той доляй пэўнасці, наколькі гэта на сёння вядома. Закансерваваны выгляд яе маем у санскрыце.

Што датычыць беларускай мовы, то падчас вялікага перасялення народаў, у перыяд варварства, адбываўся адпаведны ўзаемны ўплыў моў плямён адна на другую, але тое, што плямёны захавалі рэзка выражаныя адрозненні адно ад другога, сведчыць пра вялікую іхнюю абасобленасць. Мовы плямёнаў развіваліся пры невялікім узаемным уздзеянні, ажно да спынення на абасобленых участках тэрыторыі.

Нязначны ўплыў на славянскія мовы аказалі асіміляваныя імі балты. Мы практычна не адчуваем у беларускай мове балцкага элементу.

Утварэнне крывіцка-дрыгавіцкай дзяржавы, Полацкага княства, прывяло да амаль поўнага сцірання пэўных адрозненняў паміж крывічамі і дрыгавічамі, і далей мы можам гаварыць пра агульную беларускую мову і адзіны беларускі народ.

Беларускія землі (Полацкае і Турава-Пінскае княствы) на некаторы час аказаліся ў рэчышчы агульнага ходу ўздзеяння царкоўна-балгарскай мовы на мову славянскіх плямёнаў, але гэтае ўздзеянне было перарвана хваляй архаічнай дрыгавіцка-люціцкай стыхіі з боку Наваградка. Царкоўна-балгарская мова не змагла выйсці з-за сцен цэркваў і кляштароў. Мова народа развівалася без яе ўздзеяння.

Не мелі вялікага поспеху і пазнейшыя спробы ўнармавання беларускай мовы на аснове царкоўна-балгарскіх канонаў. Гэтыя спробы цягнуліся да 1588 года, але закранулі толькі нязначны слой грамадства, які мусіў мець справу з пісьменствам. А народная мова працягвала развівацца свабодна. Садзейнічала гэтай свабодзе і тое, што атака польскай мовы прыйшлася па тых жа слаях, якія атакавала раней мова царкоўна-балгарская. Асноўная маса народа ізноў засталася ўбаку.

Нацыянальная трагедыя беларускага народа, *якая вылілася* ў *фактычны адрыў ад яго* адукаваных, здольных уплываць на развіццё мовы, станаў грамадства і пераход іх па мове ў іншыя нацыі, прывяла да таго, што ад беларускай мовы засталася яе архаічная, натуральная частка, якая не падпала ні пад уздзеянне іншых моў, ні пад унармаванне граматыкай. Рэдка якое новае слова трапляла ў вёску ці засценак. Народ аднолькава не разумеў і бацюшку, і ксяндза. Таму на момант аднаўлення пісьменства на Беларусі мы мелі найлепей захаваную і найменей падпалую пад уздзеянне іншых моў сваю мову. Фактычна мы мелі першамову славянства, прынамсі, яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Слова за словам мы аднаўляем яе сёння... Мы мелі мову свабоднай ментальнай прасторы *і, калі параўноваем яе з санскрытам* (таксама з мовай свабоднай ментальнай прасторы), то маем пэўную рацыю.

Характэрнымі асаблівасцямі моў свабоднай ментальнай прасторы з'яўляецца глабальная перавага гука «а» над іншымі галоснымі.

Прасочым гэтую пасылку шляхам даследавання васьмі індаеўрапейскіх моў: санскрыту, расейскай, польскай, чэшскай, балгарскай, нямецкай, румынскай і беларускай.

Двойчы я праводзіў даследаванні шляхам выбаркі выпадковых, але самабытных, не пазычаных і не стаўшых інтэрнацыянальнымі слоў расейскай мовы і браў іх пераклады на іншыя сем моў.

Частата траплення гука «а» сярод галосных склала адпаведна ў

| | *першы раз, %* | *другі раз, %* |
|---|---|---|
| расейская мова | 23 | 25 |
| балгарская мова | 25 | 26 |
| нямецкая мова | 17 | 16 |
| *польская мова* | 28 | 36 |
| чэшская мова | 36 | 32 |
| румынская мова | 28 | 27 |
| беларуская мова | 68 | 74 |
| санскрыт | 66 | 68 |

Безумоўна, гэтыя паказчыкі нясуць адпаведную памылку доследу, бо мае месца выпадковасць і абмежаванасць скарыстанага слоўнага поля. Тым не менш, агульны малюнак відзён дасканала. Мовы свабоднай ментальнай прасторы санскрыт і беларуская маюць прыблізна аднолькавую частату траплення літары «а». Адрыў па гэтаму паказчыку ад іншых моў такі вялікі, што ўсялякая выпадковасць выключана.

Такім чынам, відавочна, што беларуская мова захавала не толькі найбольшы пласт санскрыцкай лексікі, але яшчэ і санскрыцкую традыцыю развіцця мовы. Беларуская мова данесла праз глыбіню тысячагоддзяў усе рысы арыйска-праславянскай мовы. Таму на сёння менавіта беларуская мова — гэта мова-крыніца, мова-пачатак для ўсіх славянскіх моў. І наспела вострая неабходнасць стварэння слоўніка слоў, запазычаных з беларускай мовы ў іншыя, перш за ўсё славянскія мовы.

Застаецца сказаць пра лічэбную сістэму жыхароў Краіны арыяў. Яна была ў іх дасканалаю. Шматграннасць санскрыту дае нам некалькі назваў адной і той жа лічбы ці ліку. Напрыклад, лік «шэсць» мае формы: «шаш», «ша», «шад», шат». Лікі «два» і «тры» гучаць як «два» і «тры», іншыя ў большай ці меншай ступені адрозніваюцца ад беларускага гучання: «чатыры» — «чатвар», «пяць» — паньчан».

Лічэбная сістэма арыяў была дзесяцічнай. Другі дзесятак утвараўся шляхам дабаўлення да ліку першага дзесятка слова «дашан» — «дзесяць». «Траёдашан» — «трынаццаць», «чатурдашан» — «чатырнаццаць». Трэці дзесятак утвараецца аналагічна другому шляхам дабаўлення да ліку першага дзесятка слова «віншаці» ці «віншат». «Траёвіншаці» — дваццаць тры. Таксама ўтвараюцца і іншыя дзесяткі.

# ДВА АПАВЯДАННІ

*(Пачатак на стар. 9)*

нейкі вуглаваты, валявы. Меў ён жонку, ад якой, як неўзабаве я даведаўся, збег, бо яна, як ён прызнаўся мне, амаль кожны дзень «ставіць» яму «рожкі».

— Я еду на палявыя заняткі на ўвесь дзень, а яна... Робіць, што захоча. Вяртаюся ўвечары — тытунём ад яе смярдзіць... Не, не магу я з ёю жыць...

Капітан Нямчура, каб неяк заглушыць свой боль, таксама піў. І з тымі афіцэрамі, што спыняліся пераначаваць у «афіцэрскім інтэрнаце», і з нейкімі іншымі, мусіць, саслужыўцамі, якіх прыводзіў да сябе ў госці.

Неяк у «афіцэрскі інтэрнат» прыйшла і яго жонка, Лэся, якая, як выявілася, жыла дзесьці непадалёку, тут жа, у Кіеве. Тоненькая, кволенькая і надта ж мілая. Гаварыла яна па-ўкраінску, але я добра яе разумеў. І паколькі капітана Нямчуры не было ў інтэрнаце, то Лэся даволі шчыра пачала расказваць мне пра нелады з мужам.

— Ніяк зразумець не магу, — прызналася яна, — чаму раптам такі халодны да мяне ён стаў... Ніякай блізкасці... Як убачыць — уцякае...

— Бо лічыць, што вы здраджваеце яму, — сказаў я тое, што ведаў. — Ён раўнуе вас...

Лэся ўсміхнулася.

— Каб жа гэта праўда было. Ды не ж — не здраджваю...

І яна пачала расказваць, як кахае свайго мужа. Каб выклікаць рэўнасць, на што толькі не ідзе.

— І абкурваю сябе цыгарэтамі, і недакуркі кідаю на падлогу... А то раз і віна напілася... А ён... Толькі фыркае... Я лезу да яго, а ён уцякае.

Прыйшоў капітан Нямчура. Убачыўшы ў інтэрнаце Лэсю, ён тупнуў нагою і, не зачыняючы дзвярэй, трымаючы іх рукою, папрасіў жонку пакінуць наша жыллё. Калі праз нейкі час ён вярнуўся, я сказаў яму, што ў яго вельмі мілая жонка і што яна кахае яго.

— Адкуль вы гэта ўзялі? — як бы насцярожыўся ён.

— Яна сама мне пра гэта сказала, — прызнаўся я.

— Брэша, — гаркнуў капітан.

— А мне здаецца, што не, — дазволіў сабе не згадзіцца з капітанам я. — І тое, што яна тытунём пахне, дык сама знарок абкурвае сябе, каб рэўнасць выклікаць у вас...

— І гэта брахня, — зноў сказаў, як адрэзаў, капітан. — Ненасытная шлюха... Мала ёй тых, з кім удзень гуляе, дык яшчэ і да мяне лезе... А я стамляюся на вучэннях, мне не да таго... Ды і не магу я разам быць з такой жанчынай, якая перад гэтым з іншым была. Гадка!

Капітан Нямчура, як я зразумеў, быў выпіўшы, і таму прадаўжаць нашу размову не мела сэнсу. Нацягнуўшы на сябе коўдру, я адвярнуўся, зрабіў выгляд, што хачу спаць.

Назаўтра Лэся прыйшла ў інтэрнат зноў. У інтэрнаце, як і напярэдадні, не было нікога, адзін я. І Лэся, прысеўшы на край ложка, бліжэй да мяне, зноў доўга расказвала пра свае ўзаемаадносіны з мужам. Пытанне ў яе было адно: як вярнуць яго зноў да сябе, дадому?

— Ён дужы, сумленны, — гаварыла Лэся. — Што думае, тое і кажа. Але вось ці кахае мяне?

— Каб не кахаў, не раўнаваў бы, — умяшаўся я ў размову. — Перажывае ж, мучыцца...

— Сам вінаваты. Навошта браць у галаву тое, чаго няма, выдумляць усякую несусветніцу?

— Мабыць, вы далі повад...

— Ніякага. Як перад богам клянуся. Калі што і рабіла, дык толькі дзеля аднаго — каб ён кахаў мяне.

— Значыцца, перастараліся, — усміхнуўся я. — У сямейных адносінах не бывае так, каб нехта толькі адзін быў вінаваты. Звычайна, вінаватыя абодва, вядома, кожны ў рознай ступені...

— Можа быць, усё можа быць, — згаджалася са мною, уздыхала Лэся.

Прыйшоў капітан Нямчура і, убачыўшы яго ў дзвярах, гэты раз Лэся ўжо сама ўсхапілася на ногі і кінулася як не бегма з інтэрната.

Не ведаю, што і як гаварыў капітан з Лэсяй, але ў два бліжэйшыя вечары яна не прыходзіла да нас. Пачаліся палявыя вучэнні, і капітан Нямчура начаваў дзесьці на палігоне ці ў палатачным гарадку. Лэся, праўда, не забывала на свайго мужа, званіла па тэлефоне, цікавілася, ці не вярнуўся ён з вучэнняў. Урэшце, не вытрымала, у адзін з вечароў прыйшла зноў сама ў інтэрнат, каб, мабыць, праверыць, ці кажу я ёй праўду, не падманваю яе. Няйнакш, яна сумавала па мужу, чакала яго. Калі стала ясна, што капітана не будзе, паднялася, каб ісці дахаты.

— Вы далёка жывяце? — спытаў я ў яе.

— Не, не вельмі, — адказала яна.

— Не баіцеся адна вяртацца дадому?

— Чаму ж, як і кожная жанчына трошачкі баюся. Але ж... адна я дасюль ніколі не вярталася. Мяне праводзіў муж, — усміхалася неяк надта ж шчыра, даверліва, а таму і хораша, Лэся.

— І не заходзіў дадому, кіраваўся зноў у інтэрнат, — ні то спытаў, ні то канстатаваў я.

— Так, — прызналася Лэся.

— А што калі я вас правяду?

— Як хочаце, — сказала Лэся, але ў яе голасе я ўлавіў як бы радасць.

Я накінуў на сябе пінжак, пайшоў услед за Лэсяй.

Ноч была жнівеньская, ціхая, цёплая. Свяціў месяц, высыпалі, як гэта заўсёды бывае ў канцы лета, густа зоры.

Выйшаўшы за КПП, мы пабрылі з Лэсяй поплеч, гаворачы ўжо не пра яе мужа, не пра ўзаемаадносіны між ёю і ім, а проста пра ўсё, што прыходзіла ў галаву. Лэся расказала пра сябе — нарадзілася яна ў вёсцы на Палтаўшчыне. закончыла інстытут, працавала бухгалтарам.

— Сумная гэта праца, — як бы з

«Дватрымшат» — трыццаць два, «траяхшасці» — шэсцьдзесят тры, «траяссаптаці» — семдзесят тры. Такая пабудова лікаў, большых за 20, засталася ў немцаў і чэхаў. У беларусаў і палякаў спачатку называюцца дзесяткі, а потым адзінкі, што падаецца больш рацыянальным, але ў арыяў было больш сістэмна... Сотня — «шатака». Тысяча — «сагасра». Гэтыя словы па гучанню маюць малое падабенства да беларускіх, але іх наяўнасць пацвярджае, што лічэбная сістэма арыяў была развіта добра. Зараз мы разгледзім яе з іншага боку. Мы паказалі, што лічэбная сістэма арыяў была дзесяцічнай. Але дзесяцічная сістэма — гэта сістэма біялагічная. Яна грунтуецца на дзесяці пальцах чалавека. Сістэма даволі зручная і распаўсюджаная. Аднак «дзевяць» на санскрыце гучыць як «нава», «наван». «Нава» значыць яшчэ і «новы», «свежы», «малады». Карэннае «новы» захавалася ў лічэбніках «дзевяць» і ў латыні, і ў нямецкай, і ў англійскай, і ў шмат якіх іншых мовах. Так, па-нямецку «ной» — «новы», а «нойн» — «дзевяць». Колішні дзевяты месяц быў «навэмбэр». Зараз ён адзінаццаты.

Такім чынам, «дзевятка» была нейкай новай лічбай, далучанай да старых, але тады атрымоўваецца, што ў нейкі, мо яшчэ даарыйскі ці раннеарыйскі перыяд лічэбная сістэма была васьмірычнай. Васьмірычная ж сістэма — гэта сістэма не біялагічная. Яна не мае біялагічнай падставы. Можна знайсці для яе падставу геаграфічную, напрыклад, чатыры асноўныя і чатыры дадатковыя бакі свету, але нават грэчаская міфалогія не звяртае ўвагі на дадатковыя бакі свету. Увага да іх з'явілася значна пазней, падчас развіцця параходства. Малаверагодна, што для арыяў, якія ніколі не былі мараходамі, паўночны захад ці паўднёвы ўсход мелі настолькі істотнае значэнне, каб на іх падставе будаваць лічэбную сістэму... Таму наўрад ці раннеарыйская сістэма была геаграфічнай. Дзе ж тады адказ? Адказ на пытанне аб паходжанні раннеарыйскай васьмірычнай сістэмы бачыцца толькі адзін. Кожны хоць трохі знаёмы з электронікай чалавек ведае, што васьмірычная сістэма побач з двайчнай — гэта машынная лічэбная сістэма. Гэтая пасылка выводзіць нас на выснову, што ў аснове раннеарыйскай ці, можа, і даарыйскай лічэбнай сістэмы была пакладзена... сістэма машыннай цывілізацыі, якая ўжо працавала са штучным інтэлектам. А гэта ў сваю чаргу ставіць шэраг іншых пытанняў: што гэта была за цывілізацыя? Ці зямная яна?.. Якую ролю выконвала на Зямлі: настаўнікаў, ці творцоў чалавецтва? Адказаць на гэтыя пытанні пакуль нельга. Але адказ ужо блізка...

*Мястэчка Рось-1*
*Ваўкавыскага раёна*

*Ліст у рэдакцыю*

# БЕЗ ПАМЫЛАК НЕ АБЫШЛОСЯ

Нарэшце набліжаецца да завяршэння вялікая і карпатлівая праца, распачатая цэлым калектывам Інстытута літаратуры АН Беларусі яшчэ ў 1981 годзе, — стварэнне і выданне шасцітомнага біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі». Сёлета выйшаў трэці том, у бліжэйшыя дні з'явіцца чацвёрты. Вычытана карэктура пятага і асноўнай часткі шостага тома. Застаўся толькі «Дадатак», куды ўвойдуць артыкулы пра пісьменнікаў, якія былі прыняты ў саюз у апошнія гады (мяжой тут стане апошні пісьменніцкі з'езд). Будуць там і матэрыялы пра дзеячаў літаратуры, чые прозвішчы раней увогуле нельга было называць (напрыклад, К. Езавітаў), або чые жыццяпіс і біяграфію нельга было тады скласці з-за адсутнасці звестак (пераважна гэта датычыцца эміграцыі).

Нягледзячы на станоўчыя водгукі ў беларускім і зарубежным друку, выхад першых тамоў, на жаль, не прынёс мне, як рэдактару, і, відаць, членам рэдкалегіі таго ўнутранага задавальнення, якога мы чакалі пры падрыхтоўцы выдання ў 1981—1987 гг. Па-першае, занадта доўга гэтыя тамы праляжалі ў выдавецтве ў рукапісе (і яно зразумела: у першым томе былі і Антон Адамовіч, і Францішак Аляхновіч, і Наталля Арсеннева...), а потым — у пласцінах у наборы, калі праўкі ўжо немагчымыя (нават у выпадку смерці пісьменніка). Таму і абарвалася бібліяграфія (апрача кніжнай) на 1985 годзе. Па-другое, засталіся ў першых тамах прымітыўныя, палітызаваныя характарыстыкі (асабліва ў дачыненні да эміграцыі), без якіх раней нельга было абысціся, «уратаваць» пісьменніка ад цэнзуры.

Не абышлося і без недакладнасцей, выкліканых адсутнасцю або недаступнасцю звестак (напрыклад, пра рэпрэсаваных). Так, па інфармацыі Яўнікі Баршчэўскай, дачкі літаратуразнаўца Яўгена Баршчэўскага, яе бацька не быў рэпрэсаваны, як гэта сцвярджаецца ў першым томе. Можна было б прывесці іншыя прыклады, калі вінаваты і самі пісьменнікі, якія не вычыталі і не вярнулі прысланыя ім на подпіс біяграфіі.

Самая прыкрая памылка звязана з празаікам Алесем Крыгам. У яго біяграфічным артыкуле, змешчаным у трэцім томе, ёсць фраза: «У 1987 асуджаны ў сувязі са смерцю ленінградскага рабочага ў Доме творчасці «Іслач». У сапраўднасці ж Алесь Крыга праходзіў па гэтай справе толькі сведкам. Аднак злога намеру ў гэтай памылцы не было. Недакладная інфармацыя была атрымана мною ў спешцы (артыкул спачатку быў зняты, а потым узноўлены непасрэдна перад здачай тома) у тэлефоннай размове з недастаткова кампетэнтнай работніцай Саюза пісьменнікаў. А потым, у карэктуры факт не праверылі. За ўсю гэтую недарэчнасць прашу ў Алеся Крыгі прабачэння.

Калі чытачамі «Літаратуры і мастацтва» будуць выяўлены яшчэ якія істотныя недакладнасці, просім паведаміць пра іх рэдакцыйнаму калектыву, і яны будуць выпраўлены ў «Дадатку».

**Адам МАЛЬДЗІС**

# ДА РЫНКУ — БЕЗ НОТ...

У Віцебску адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Нотадрукаванне старажытнай і сучаснай Беларусі».

Нотадрукаванне на Беларусі вядома ажно з сярэдзіны XVI стагоддзя. Ноты друкаваліся ў Брэсце (1553), Нясвіжы (1561), Заблудаве (1568), Лоску (1574), Слуцку (1580), Цяпіне (каля 1580), у перасоўнай друкарні С. Собаля, што працавала ў 1630-я гады ў Магілёве.

Першы друкаваны нотны зборнік на Беларусі і адзін з самых ранніх ва Усходняй Еўропе «Брэсцкі камцыянал» («Песні хвал боскіх», 1558) Яна Зарэмбы.

У 1563 годзе М. Кавячынскі і друкар Д. Ланчыцкі выдалі «Нясвіжскі канцыянал».

Удзельнікі канферэнцыі, а сярод іх — вучоныя, самадзейныя і прафесійныя музыкі, педагогі, моладзь, навучэнцы музычнага вучылішча, канстатавалі, што, на жаль, традыцыі нотадрукавання згублены. Нават смешна, сёння беларускія дзеці не могуць у краіне набыць звычайных нот для заняткаў музыкай.

У школах урокі музыкі часта падмяняюцца слуханнем пласцінак, мыйкай сцен, падмятаннем двара школы, іншымі прадметамі — конкурснымі, для паступлення ў ВНУ. Музыка і спевы сталі другарадным прадметам.

Абыякавасць да роднага мастацтва — гэта, пэўна, таксама нотка нашага базарнага рынку, калі родная культура развіваецца па законах астаткавага фінансавання.

**К. КАРНЯЛЮК**

роздумам гаварыла яна. — Увесь дзень з лічбамі. Ды і калектыў у нас жаночы. У адной хварэюць дзеці, у другой нелады з мужам, трэцяя развялася ці ніяк не можа выйсці замуж... Словам, у кожнай свае праблемы. Былі б у калектыве мужчыны, можа б, усё па-інакшаму ў мяне склалася...

— А як вы пазнаёміліся з капітанам Нямчурай? — пацікавіўся я.

— На танцах. Ён праводзіў мяне дахаты, потым запрасіў у кіно. З месяц мы з ім сустракаліся, ён прапанаваў мне выйсці за яго замуж. Згулялі вяселле... І жылі...

— Дзяцей у вас няма? — спытаў я.

— Не, не паспелі абзавесціся. Мы ж нядаўна пажаніліся. Усяго год...

— Чаму ж тады нелады між вамі пачаліся?

— І сама не ведаю. Халодны ён да мяне раптам стаў, не заўсёды мяне хоча...

— Можа, стамляецца?

— Не ведаю я. Ён, праўда, аднойчы нешта гаварыў пра ракетныя войскі, у якіх ён служыць. Але не, ракеты тут ні пры чым. Проста ён не кахае мяне. Я і пачала ўсё рабіць, каб рэўнасць выклікаць...

— Ну, і чаго дамагліся? — глядзеў я ў вочы Лэсі.

— Хацелася як найлепш.

— А атрымалася як найгорш.

Мо праз паўгадзіны мы дайшлі па ціхіх начных вуліцах да дому, дзе жыла Лэсі. Я падаў ёй руку, развітаўся. Прызнацца, мне падабалася Лэся, было ў ёй нешта вельмі ж непасрэднае, дзяцінае. Ды і сама яна была лёгкая, маладая, усё адно што дзяўчынка. Мне нават захацелася абняць яе, прытуліць да сябе, пацалаваць. Але я не рашыўся на гэта. Паціснуўшы хуценька цёплую, кволую руку, я развітаўся і пакіраваўся назад да танкавага вучылішча.

Яшчэ два разы ў адсутнасць капітана Нямчуры прыходзіла ў інтэрнат Лэся і два разы я праводзіў яе дахаты. Ноч, цішыня на вуліцах неяк непрыкметна збліжалі нас... Мы ўсё менш і менш успаміналі капітана Нямчуру, гаварылі пра яго...

Нехта, мусіць, са знаёмых капітана бачыў, як я праводзіў яго жонку дахаты. Бо калі ён вярнуўся з вучэнняў (а, можа, ён на іх і не ездзіў, а знарок дзесьці хаваўся, каб прасачыць за жонкай, што яна робіць у яго адсутнасць?), то першае, што ён зрабіў, гэта падышоў цяжкім страявым крокам да мяне, дастаў з кабуры пісталет.

— Вось што, пісьменнік, — сказаў ён раздражнёна, са злосцю. — Калі ты яшчэ хоць раз дакранешся да маёй жонкі... Прыстрэлю. І цябе, і яе...

— Але я да яе не дакранаўся, — сказаў я ціха, прымірэнча. — Я праводзіў яе дахаты. І то толькі таму, што баяўся, каб чаго не здарылася з ёю. Ноч, а яна адна... Такая кволая, безабаронная...

— Я ведаю, усё ведаю, — сказаў зноў рэзка, як адрэзаў, капітан. — Таму і не страляю цяпер, толькі папярэджваю...

Капітан быў выпіўшы і гаварыць з ім пра што-небудзь яшчэ мне не хацелася. Я выключыў на сваёй тумбачцы святло і лёг спаць.

Назаўтра, прыйшоўшы ў рэдакцыю, я, гутарачы са сваім непасрэдным начальнікам — загадчыкам аддзела, прызнаўся, што мне не зусім утульна жывецца ў танкавым вучылішчы.

— Дарэчы, а дзе вас пасялілі? — спытаў загадчык.

— У афіцэрскім інтэрнаце, — адказаў я. — Дзевяць ложкаў, кожны дзень новыя людзі...

— А-а, — засмяяўся загадчык аддзела. — Гэта былы морг... І вам не страшна там спаць?

Валасы на маёй галаве ледзь не ўсталі дыбка. Чаго-чаго, а мерцвякоў, усякіх тых месцаў, дзе яны ляжаць, я ўсё сваё жыццё старанюся. А тут...

Загадчык аддзела зразумеў мяне без слоў.

— Добра, зараз мы ўсё ўладкуем, — сказаў ён і, падсунуўшы бліжэй да сябе тэлефон, пачаў званіць, набіраць нумары то аднаго, то другога начальніка, якіх ён, як выявілася, асабіста ведаў, бо працаваў некаторы час выкладчыкам у гэтым самым танкавым вучылішчы. Мо праз паўгадзіны, ён сказаў мне:

— Ідзіце ў КЭЧ, спашліцеся на начальніка вучылішча, што вам дазволена перасяліцца ў курсанцкі інтэрнат. Там ёсць пакой нумар шаснаццаць, рэзерв начальніка вучылішча. Яго вы і зоймеце.

Я ледзь не на крылах паляцеў у танкавае вучылішча, думаючы: «Калі ўсё будзе так, як сказаў загадчык аддзела, то яшчэ днём перасялюся на новае месца жыхарства. Каб не начаваць больш у моргу, не бачыць, не сустракацца ні з капітанам Нямчурай, ні з Лэсяй...»

Не, прызнаюся шчыра, з Лэсяй я ахвотна б сустрэўся. Але... Лепш быць далей ад граху. Ды і муж жа ў яе, капітан Нямчура... Праз сваю рэўнасць ён мог нарабіць бяды. Гэта я адчуваў, амаль ведаў. І тады б... «афіцэрскі інтэрнат» зноў вярнуў бы сабе сваю ранейшую назву...

— Ну што? — такім пытаннем сустрэла мяне мілавідная жанчына, што выпісвала некалькі дзён таму назад накіраванне ў «афіцэрскі інтэрнат». — Я рада за вас. Даць вам адрас?

Не, ад «адраса» я адмовіўся, папрасіў перасяліць мяне ў іншае месца.

— Але іншага месца няма, — глядзела на мяне, не зводзіла сваіх чорных, іскрыстых вачэй жанчына. — Я ж вам казала.

— Ёсць, — усміхнуўся я. — Пакой у курсанцкім інтэрнаце нумар шаснаццаць.

— Гэта рэзерв самога начальніка вучылішча...

— Я ведаю. Начальнік вучылішча дазволіў мне там пасяліцца. Калі не верыце, пазваніце яму.

Жанчына мне не паверыла, набрала нумар начальніка вучылішча, спытала, ці не падманваю я яе.

Патрымаўшы ля вуха тэлефонную трубку і выслухаўшы, што ёй гаварылі, неяк ураз змянілася з твару.

— Выбачайце, дзякую, — сказала яна ў тэлефонную трубку і амаль што кінула яе на апарат.

Бачылі б вы, з якой злосцю выпісвала яна, а потым і падавала мне накіраванне на пасяленне ў пакой нумар шаснаццаць! Падумаў быў я тады — ці не сабе выбірала гэтая жанчына сужыльца? А, можа, я і памыляюся. Не ведаю...


**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Андрэй ГАНЧАРОЎ**
***першы намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась ЗАЛОСКА**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ**
***намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск,**
**вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі** ***332-461***
**намеснікі галоўнага рэдактара** ***332-525, 331-985***
**аддзелы:**
**публіцыстыкі** ***332-525***
**пісьмаў і грамадскай думкі** ***331-985***
**літаратурнага жыцця** ***332-462***
**крытыкі і бібліяграфіі** ***332-204***
**паэзіі і прозы** ***332-204***
**музыкі** ***332-153***
**тэатра, кіно і тэлебачання** ***332-153***
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў** ***332-462***
**навін** ***332-462***
**мастацкага афармлення** ***332-204***
**фотакарэспандэнт** ***332-462***
**бухгалтэрыя** ***268-640***

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 8.09.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

